*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
25
СТУДЗЕНЯ
1991 г.
№ 4 (3570)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)







Мінск. 20 студзеня 1991 года. Мітынг салідарнасці з народам Літвы на плошчы Леніна.
Фота Я. КАЗЮЛІ.

# СПАДЗЯЁМСЯ І ВЕРЫМ...

Асэнсоўваючы трагічныя падзеі ў Літве як спробу дзяржаўнага перавароту з мэтай гвалтоўнага скасавання законных органаў улады і аднаўлення таталітарна-каманднай сістэмы, Управа Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» выказвае супраць гэтага гнеў і абурэнне, а таксама глыбокую жалобу і смутак па бязвінных ахвярах, спачувае іх родным і блізкім.

Нельга паставіць на калені народ, якім завалодала неадольнае імкненне да свабоды і незалежнасці, жаданне быць гаспадаром на роднай зямлі, ладзіць годнае жыццё паводле ўласных традыцый і патрэб.

Трагічна - крывавыя і, здавалася б, назаўжды павучальныя і ганебныя адначасова ўрокі савецкай гісторыі (сталінскі генацыд у сваёй дзяржаве, а таксама падзеі ў Венгрыі, Польшчы, Чэхаславаччыне, Афганістане) пераканаўча засведчылі згубнасць і марнасць навязваць сябе, свой лад іншым народам, перад усім светам выявілі, што нічога, апрача слёз і крыві, гвалту і нянавісці, «палітыка» штыкоў і танкаў даць не можа. Вось чаму ў гэты напоўнены высокай адказнасцю момант заклікаем прадстаўнікоў усіх узроўняў улады, ад Прэзідэнта да нізавых выканаўцаў, спыніцца на самым пачатку, каб не было патрэбы каяцца потым, чуючы праклёны і галашэнні соцень і тысяч абяздоленых мацярок, удоў і сірот, адчуваючы цяжкі прысуд гісторыі...

У Беларусі з асаблівым хваляваннем адчуваецца гарачае дыханне падзей у Прыбалтыцы не толькі па прычыне блізкага суседства, але і гістарычнай лучнасці нашых народаў, з'яднаных колішнім супольным жыццём у Вялікім княстве Літоўскім, якое і дасёння застаецца ўзорам талерантнасці, міру і ўзаемапавагі народаў, што жылі на абшары ад Балтыйскага да Чорнага мора. Тое, што беларуская мова абслугоўвала тут дзяржаўныя абсягі жыцця, не перашкаджала духоўнаму самасцвярджэнню іншых народаў і не спараджала паміж імі канфліктаў. Страта ж дзяржаўнасці спрычыніла духоўны заняпад у краі, гвалтоўную паланізацыю і русіфікацыю карэнных нацый. Несучы страты, беларусы, як этнас, усё ж здолелі трывала захаваць сябе да сярэдзіны нашага стагоддзя — Вільня, як і да рэвалюцыі, з'яўлялася ў Заходняй Беларусі цэнтрам нацыянальна-вызваленчага і культурна-грамадскага беларускага руху, тут выдаваліся дзесяткі часопісаў і газет, вялося навучанне на роднай мове. Аднак адразу ж пасля вайны ўсё гэта было растаптана і продкі старажытных крывічоў аказаліся, не маючы ніякіх гарантый для нацыянальнага развіцця, ці не самай бяспраўнай, пазбаўленай духоўнай перспектывы нацыяй у Літоўскай ССР. Толькі з пачаткам перабудовы пачалі ажываць парасткі некалі магутнага беларускага дрэва ў гэтым краі. Большасць жа этнічных беларусаў, што даводзіцца канстатаваць з глыбокім жалем, папоўнілі шэрагі «палякаў» і так званага «рускоязычного населения», думкай і пачуццём якога, скарыстоўваючы пралікі рэспубліканскага кіраўніцтва, досыць лоўка маніпулююць тыя, хто імкнецца распаліць нацыянальную варажнечу і выклікаць поўную дэстабілізацыю грамадскага жыцця ў Літоўскай Рэспубліцы, узяць уладу ў свае рукі.

Спадзяёмся і верым, што ў вольнай адроджанай Літве кожны, хто пажадае быць яе Грамадзянінам, здабудзе аднолькавыя правы, у тым ліку і неад'емнае чалавечае права быць самім сабой, захоўваць і развіваць сваю нацыянальную самабытнасць. Бо нельга, кажучы простымі і адначасова мудрымі словамі нашага народа, будаваць сваё шчасце на няшчасці другіх!

**ЖЫВЕ СВАБОДНАЯ ЛІТВА!**
**ЖЫВЕ СВАБОДНАЯ БЕЛАРУСЬ!**

Ухвалена на ўправе згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і падтрымана на масавым мітынгу ў Мінску 20 студзеня 1991 года.

ЗЬНІЧ

## ЛІТВА—БЕЛАРУСЬ

Студзень, 1991

Ля Кастуся, ля Гедыміна,
пад небам віленскіх крыжоў
мая палонная Айчына
крывёй абмытая ізноў...

Ізноў Хрыстос — нябачны — з намі,
а на плячох — няволі Крыж...

Багаславёны сьвятарамі,
народ, ты болей не маўчыш.

Хай лісьцем ападаюць цепы,
душа — як з Богам — будзе жыць!
ахвярны — бел-чырвона-белы
наш сьцяг Васкрошаньнем мігціць.

Гляджу Ягонымі вачыма
на ўсё, што ў нас і у Літве...
Мая палонная Айчына,
як Маці Божая, —
жыве!

# Кола дзён

**16 студзеня**

тысячы людзей — літоўцы, беларусы, рускія, палякі — прыйшлі на пахаванне ахвяр «крывавай нядзелі» ў Вільнюсе. На грамадзянскай паніхідзе былі і дэпутаты, члены грамадскіх арганізацый з нашай рэспублікі.

**17 студзеня**

на сесіі Вярхоўнага Савета БССР прынята Заява аб падзеях у Літве. У Заяве, у прыватнасці, патрабуецца ад Прэзідэнта СССР «неадкладна спыніць удзел Узброеных Сіл у вырашэнні палітычных праблем Літвы, правесці расследаванне дзейнасці так званага камітэта нацыянальнага выратавання, прыняць неабходныя меры па прадухіленні ў далейшым прымянення зброі...»

**18 студзеня**

ў Вярхоўным Савеце рэспублікі пачалося абмеркаванне праекта Закона «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС». Раней, на мінулым тыдні, былі прыняты ў першым чытанні законы «Аб сялянскай (фермерскай) гаспадарцы», «Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве», «Аб рэферэндуме Беларускай ССР».

**19 студзеня**

на другі дзень вайны ў Персідскім заліве, выявілася, што прыхільнікі Садама Хусейна ёсць і ў Мінску. Некалькі дзесяткаў чалавек — у асноўным арабскія студэнты з мінскіх ВНУ — сабраліся каля Дома палітасветы пад лозунгамі: «ЗША — дамоў!» «Арабская нафта — арабам!» Мітынг быў санкцыянаваны.

**20 студзеня**

нягледзячы на выхадны дзень, у Мінску на плошчы Леніна прайшоў масавы мітынг салідарнасці з Літвой (гл. першую старонку сённяшняга нумара «ЛіМа»). Яго ўдзельнікі яшчэ не ведалі, што ўвечары зноў пральецца кроў — на гэты раз у Латвіі.

**21 студзеня**

група народных дэпутатаў БССР на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета рэспублікі М. Дземянцеем усклала кветкі да помніка У. І. Леніну.

**22 студзеня**

Прэзідэнт СССР М. Гарбачоў выступіў з заявай, у якой прызнаў, што пэўная частка грамадства не разумее і нават не жадае разумець ягоную палітыку.

Сярод іншага кіраўнік краіны сказаў: «Любыя грамадскія арганізацыі, камітэты і франты, з якімі б праграмамі яны ні выступалі, могуць прэтэндаваць на прыход да ўлады толькі канстытуцыйным шляхам, без прымянення насілля. Усялякія спробы апеляваць да ўзброеных сіл у палітычнай барацьбе недапушчальныя».

**23 студзеня**

чуткі аб абмене грошай, якія неаднойчы афіцыйна абвяргаліся, сталі рэальнасцю. Паводле прэзідэнцкага ўказа пачаўся абмен купюр вартасцю 100 і 50 рублёў узору 1961 г. на купюры меншай вартасці. Пры гэтым абмежавана колькасць наяўных грошай, якія падлягаюць аўтаматычнаму абмену (1000 р.), і памер атрымання ўкладаў у ашчадных банках (да 500 р.). У сераду з раніцы ў ашчадных банках стаялі тысячы напалоханых пенсіянераў. Многія плакалі. Як адрэагавала «ценявая эканоміка» — пакуль невядома.

# ШТО ЎБАЧЫЛІ

## ў Латвіі народныя дэпутаты Беларусі

**Днямі з Рыгі вярнулася група народных дэпутатаў БССР, накіраваная ў сталіцу Латвіі па рашэнні парламенцкай апазіцыі БНФ і Дэмакратычнага дэпутацкага клуба. Вось што расказаў у гутарцы з карэспандэнтам «ЛіМа» член дэлегацыі, народны дэпутат БССР Мікалай КРЫЖАНОЎСКІ:**

— Мы сустракаліся з дэпутатамі Вярхоўнага Савета Латвіі, рыжскага гарсавета, з прадстаўнікамі беларускага «Світанку», з людзьмі розных нацыянальнасцей і поглядаў. Абмяркоўвалі становішча ў рэспубліцы, гутарылі аб магчымых шляхах выйсця з крызісу.

**— Ці сустракаліся вы з членамі камітэта грамадскага выратавання? Як ставяцца да гэтай структуры рыжане?**

— Аб стварэнні гэтага камітэта, як вядома, заявіў 13 студзеня на пленуме ЦК КПЛ другі сакратар ЦК Патрэкі. Ён таксама прад'явіў ультыматум Вярхоўнаму Савету і ўраду Латвійскай Рэспублікі і запатрабаваў іх адстаўкі. Ультыматум прадугледжвае падтрымку страйкавага камітэта і расфарміраванне добраахвотных дружын, якія створаны дзеля абароны канстытуцыйнай улады.

Рыжане ставяцца да гэтага камітэта як да штучнай, створанай кампартыяй Латвіі структуры, галоўная мэта якой — гвалтоўнае звяржэнне законна абранага Вярхоўнага Савета Латвіі.

**— Хто, на ваш погляд, з'яўляецца ініцыятарам прыбалтыйскага крызісу?**

— Падзеі ў Латвіі разгортваюцца па такім самым сцэнарыі, як і ў Літве. Мяркую, галоўная прычына ў тым, што ў парламентах і ўрадах прыбалтыйскіх рэспублік камуністы не маюць большасці. Уплыў кампартый на насельніцтва змяншаецца з кожным днём. Кіраўніцтва гэтых партый усведамляе, што дэмакратычным шляхам заваяваць большасць месц у парламентах яны не здолеюць. Застаецца адзіны, даўно выпрабаваны спосаб...

**— У цэнтральных сродках інфармацыі шмат гаворыцца пра дыскрымінацыю нелатышскага насельніцтва...**

— Буду казаць толькі пра тое, што бачыў на ўласныя вочы. Дык вось, ні я, ні мае калегі падобных фактаў не заўважылі. Наадварот, убачылі тое, як згуртаваліся людзі Латвіі розных нацыянальнасцей вакол сваіх дэпутатаў. Нягледзячы на натуральнае пачуццё трывогі, выклiканае разгортваннем падзей, такое яднанне выклікала добрую зайздрасць...

# ШТОРМ У РЫЗЕ

**Таццяна Фаст, уласны карэспандэнт «Литературной газеты» па Латвіі і галоўны рэдактар «Независимой Балтийской газеты», была відавочцай крывавай драмы ў Вільнюсе. Калі яна вярнулася ў Рыгу, мы сазваніліся. У канцы размовы я пацікавіўся: «Што цяпер у Рызе?». Таццяна адказала проста: «Прыязджай. Убачыш усё сам». І я выехаў у Латвію.**

**Ранішняя Рыга сустрэла вогнішчамі ў старым горадзе, загароджамі з аўтамабіляў, трактароў і бетонных пліт. ЦТ паднесла ўсё гэта як нейкую гульню, нават забаву для тых, хто не хоча працаваць. Але, на жаль, гэта — не бутафорыя! І людзі на барыкадах сапраўды былі гатовы легчы пад гусеніцы танкаў, не прапусціць ваенных да будынка Вярхоўнага Савета і Латвійскага радыёкамітэта.**

**Усе тры дні, праведзеныя мною ў Рызе, прэс-цэнтр Вярхоўнага Савета Латвіі нагадваў вялізны мурашнік. Толькі замежных журналістаў з 12 краін свету пры прэс-цэнтры акрэдытавана больш за 200!**

**У Дом радыё на Домскай плошчы так і не ўдалося трапіць. Уваход забарыкадзіраваны велізарнымі бетоннымі блокамі. Таццяна Зандэрсон, рэдактар рускай службы Латвійскага радыё, сказала мне, што даводзіцца 5—7 разоў прад'яўляць пасведчанне, каб трапіць на работу — такі жорсткі кантроль. І, падобна, мера гэтая зусім не лішняя.**

**Домская плошча бурліць усе 24 гадзіны ў суткі. Позна ўвечары, асабліва пасля 12 гадзін ночы, вельмі цяжка выбірацца са старога горада: усе ўезды-выезды перакрываюцца транспартам, з'яўляецца калючы дрот. Хоць — што гэтыя барыкады супраць танкаў?**

**Газеты, якія пакінулі Латвійскае выдавецтва ЦК КПСС, цяпер амаль не выходзяць. Спецвыпуск «Независимой Балтийской газеты» друкуецца ў маленькай, непрыстасаванай друкарні. Нават фальцоўку газеты робяць уручную! Я быў якраз у рэдакцыі НБГ, калі выйшаў камерцыйны дырэктар і аб'явіў: «Усе, хто ёсць, — у друкарню. Няма каму працаваць». Працавалі, як падпольшчыкі, якія выпускалі ленінскую «Искру».**

**У той жа дзень вечарам рэдакцыя бясплатна распаўсюджвала спецвыпуск на барыкадах. Дапамагаў пісьменнік Анатоль Прыстаўкін (ён цяпер у Доме творчасці Дубулты). А па пятах хадзілі тэлевізійшчыкі з Бі-Бі-Сі і здымалі, здымалі.**

**АМОНаўцы. Пра іх гавораць усюды. Кожную ноч «чорныя берэты» пастрэльваюць, раз'язджаючы на газіках па вуліцах начной Рыгі.**

**Па-мойму, для ўсіх цяпер стала ясна, што жыхары Латвіі хочуць не вяртання да ранейшых часоў, да капіталізму. Яны хочуць жыць, як людзі. Так, як жыве ўвесь свет.**

**Рускамоўнае насельніцтва (дакладней, некаторая яго частка) выкарыстоўваецца Цэнтрам у якасці «траянскага каня». Кампартыя Латвіі «выйшла з акопаў» і прагне вяртання страчаных пазіцый.**

**Я пакідаў Рыгу, калі было здзейснена яшчэ адно злачынства. АМОНаўцы штурмам узялі будынак МУС Латвійскай Рэспублікі. Загінула 5 чалавек. Сярод іх — аператар са здымачнай групы Юрыса Подніекса Андрыс Лапіньш. 10 чалавек паранены.**

**А так званы Уселатвійскі Камітэт грамадскага выратавання патрабуе ўвядзення прамога прэзідэнцкага праўлення.**

**Тбілісі, Баку, Вільнюс, Рыга... Няўжо мала?..**

**Леанід СВІРЫДАЎ,**
**карэспандэнт «Независимой Балтийской газеты» — спецыяльна для «ЛіМа».**
Рыга — Мінск.

# ЗВАРОТ

## дэпутатаў ад апазіцыі Беларускага народнага фронту і Дэмакратычнага клуба ў Вярхоўным Савеце Беларускай ССР

**Вярхоўны Савет Беларускай ССР асудзіў прымяненне ўзброенай сілы арміі супраць мірнага насельніцтва ў Літве і антыдзяржаўную дзейнасць так званага «Камітэта нацыянальнага выратавання Літвы», накіраваную на звяржэнне законнай улады. Аднак замахі на дзяржаўныя органы і эскалацыя насілля прадаўжаецца. 20 студзеня 1991 г. ахвярамі сталі мірныя жыхары, супрацоўнікі праваахоўных органаў і журналісты Латвіі.**

**У сувязі з мэтанакіраванымі ўзброенымі дзеяннямі Савецкай Арміі, унутраных і знешніх антыўрадавых сіл у Латвіі і Літве супраць законна выбраных Вярхоўных Саветаў, урадаў і народаў Латвійскай і Літоўскай Рэспублік дэпутаты ад апазіцыі Беларускага народнага фронту і Дэмакратычнага клуба ў Вярхоўным Савеце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі — заснавальніцы і члена Арганізацыі Аб'яднаных Нацый — звяртаюцца ў Савет Бяспекі ААН з просьбай разглядзець пытанне аб пагрозе суверэнітэту і парушэнні права нацый на самавызначэнне ў гэтых дзяржавах.**

**Дэпутаты ад апазіцыі Беларускага народнага фронту і Дэмакратычнага клуба ў Вярхоўным Савеце БССР падтрымліваюць канстытуцыйныя парламенты Балтыйскіх краін і просяць накіраваць афіцыйных назіральнікаў Савета Бяспекі ААН у Латвію і Літву, аказаць міжнародную падтрымку і дапамогу народам, законна выбраным Вярхоўным Саветам і ўрадам гэтых краін.**

**Дэпутаты ад апазіцыі Беларускага народнага фронту і Дэмакратычнага клуба ў Вярхоўным Савеце Беларускай ССР.**

21 студзеня 1991 г.
г. Менск.

З ПОШТЫ ТЫДНЯ

# «РОЗУМ ПАДКАЗВАЕ...»

**Пры ўсёй павазе да Прэзідэнта СССР мяне здзіўляе супярэчнасць, непаслядоўнасць і часта недальнабачнасць яго паводзін. Абвясціўшы перабудову і абнаўленне сацыялізму, паабяцаўшы круты ўздым узроўню жыцця народа за 2 гады, Прэзідэнт разам са сваёй камандай прывёў да поўнага развалу эканоміку краіны, якая цяпер прымае міласціну з-за мяжы. Заклікаўшы да рэгулюемага рынку, увёў негарантаваную картачную сістэму і харчовы падатак. Турбуючыся аб умацаванні рубля, разваліў усю фінансавую сістэму. Прапагандуючы сапраўдны суверэнітэт рэспублік і народаў, прама ці ўскосна робіць усё магчымае, каб Прыбалтыку з дапамогай блакады, зброі, хлусні, правакавання ўнутраных канфліктаў пакінуць навекі ў «імперыі зла». Прапаведуючы справядлівасць у міжнародных адносінах, робіць асабістыя і ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета заклікі і заявы, завуаліравана накіраваныя на карысць міжнароднага бандытызму Садама Хусейна. Але ж любая такая недальнабачная гульня ў сусветных адносінах можа мець негатыўныя вынікі.**

**Галоўная бяда ў тым, што наш Прэзідэнт, не абраны народам, а выгадаваны сілкавальнымі сокамі «партыі асаблівага тыпу», якая не здольна радыкальна змяніць свае пралетарска - рэвалюцыйныя дагматычныя прынцыпы, адкінутыя ўсім цывілізаваным светам. Таму яна не можа змяніцца, які б лідэр ні стаяў на чале партыі, а прэзідэнт ад КПСС не можа стаць над партыяй. Выхад краіны з ганьбы і пакут бачыцца мне ў добрасумленным самароспуску КПСС мірным шляхам і стварэнні замест яе партыі эвалюцыйнага Прагрэсу, здольнай прадаставіць уладу Розуму, памножанаму на Гуманізм. У скарбонку гэтага Розуму свой уклад будуць уносіць усе, незалежна ад сацыяльнай прыналежнасці — рабочыя, сяляне і, вядома, інтэлігенцыя. Розум падказвае, што трэба неадкладна вывесці войскі з краін акупіраванай у 1939 — 40-х гадах Прыбалтыкі, а потым пабрацку вырашыць з іх народамі ўсе пытанні. Інтэлект літоўцаў, латышоў, эстонцаў і іншых карэнных жыхароў гэтых рэспублік з'яўляецца гарантам поспеху ў гэтай справе.**

**А. САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук, прафесар, удзельнік вызвалення Латвіі і Літвы ад фашысцкай тыраніі.**

## ЦЫТАТА

**«Забітыя... Параненыя... Да помсты заклікаюць гэтыя трупы, якія вы возіце па вуліцах... Паўстаньце! Хадзіце па вуліцах і дабівайцеся таго, каб усюды была спынена праца, каб усе грамадзяне, як адзін чалавек, падняліся са зброяй у руках супраць цара, супраць урада; перадавайце салдатам лісткі і патрабуйце, каб яны адмовіліся страляць у народ».**

З лістоўкі Пецярбургскага камітэта РСДРП (студзень 1905 г.)

ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР

# «МЫ ЎСЕ—ВІНАВАТЫЯ І НЕВІНАВАТЫЯ—АБАВЯЗАНЫ...»

**Працягваецца конкурс на стварэнне мемарыяла ў лясным масіве Курапаты, абвешчаны Міністэрствам культуры, Дзяржбудам, Саюзам архітэктараў, Саюзам мастакоў рэспублікі, Мінгарвыканкомам, Беларускім рэспубліканскім аддзяленнем Савецкага фонду культуры. Пра гэта наш карэспандэнт гутарыць са старшынёй журы конкурсу, заслужаным дзеячам мастацтваў БССР, прафесарам, рэктарам Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Васілём ШАРАНГОВІЧАМ.**

— Васіль Пятровіч, і ўсё ж першае пытанне — не пра конкурс. Асабіста мне часта даводзіцца праязджаць па кальцавой дарозе, з аднаго боку якой — урочышча Курапаты. Здаецца, добра ведаю сцяжыну, што вядзе ўглыб ляснога масіву. Аднак... Не пакідае адчуванне: праедзеш міма і не заўважыш. Напружана шукаеш вачамі тую візуальную «адпраўную кропку», тую інфармацыю...

— Разумею, пра што вы гаворыце. І не толькі ўказальнікі даўно пара паставіць. Патрэбна і агароджа. Так, так, у прамым і пераносным сэнсе. Што тут утойваць: пакуль Курапаты, як ні горка гэта канстатаваць, «бесхозное» ўрочышча. Хто па сваёй недасведчанасці, а хто па душэўнай глухаце пераўтварае курапатаўскі лес у месца пікнікоў, шумнага адпачынку, дзе і шашлыкі смажаць, і п'юць, у месца, дзе пасуць і выгульваюць жывёлу. Так што першачарговая задача наша — разам з гарадскімі ўладамі па вясне паставіць хоць бы часовую агароджу, каб адмежаваць, паўтараю, гэтае святое месца ад бездухоўных праяў. Тым самым яшчэ раз указаць людзям: гэта месца душэўнага болю, напамін пра сапраўднае рабства, якое панавала, бо першае, на што ён, наш чалавек, не меў права, дык гэта на... уласнае жыццё. Курапаты — месца ўспаміну не толькі для тых, хто перажыў нечалавечыя пакуты ў сталінскіх ГУЛАГах, але і для іх дзяцей, унукаў, для ўсяго народа. Гэта месца павінна стаць, калі можна так мовіць, яшчэ і месцам «успамінаў пра будучае»: каб народы ніколі не былі рабамі ні нейкага асобнага тырана, ні злачыннай сістэмы...

— Ну а конкурс? Як вядома, першы тур яго не даў станоўчых вынікаў...

— І ўсё ж так катэгарычна я не сцвярджаў бы. Вынікі станоўчыя ёсць. Першы адкрыты тур рэспубліканскага конкурсу на праект помніка ахвярам масавых рэпрэсій 1937—41 гадоў праводзіўся фактычна з мэтай выяўлення ідэі-канцэпцыі мемарыяла ў Курапатах. Каб далучыць да гэтай справы як мага больш творчых людзей, было ўстаноўлена сем прэмій па тысячы рублёў кожная. Прадстаўленыя на конкурс праекты экспанаваліся на выстаўках у Палацы культуры Белсаўпрофа і мінскім Палацы мастацтваў. Вялося шырокае грамадскае абмеркаванне гэтых праектаў, свае думкі і прапановы людзі занатоўвалі ў кнігу водгукаў. Фактычна, побач з афіцыйным журы працавала стыхійная грамадская экспертная камісія, у склад якой уваходзілі не толькі тыя, хто прайшоў праз пекла рэпрэсій, але і людзі, шчыра зацікаўленыя, каб мемарыял быў дастой-





# А ЯК ЖА БЫЦЬ ЗАЛОЖНІКАМ ЧАРНОБЫЛЯ?

**Праект закона «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС», зняты з абмеркавання на сесіі Вярхоўнага Савета БССР.**

Дэбаты доўжыліся амаль тры дні. Абмеркаванне ішло эмацыянальна, востра. Вакол кожнага сказа, вакол кожнага слова. Наш парламент пагубіла жаданне прыняць найдакладнейшы, найсправядлівейшы, найпаўнейшы закон. І зноў вынік — нулявы. Камісія, якая рыхтавала законапраект, не змагла апрацаваць усе папраўкі і ўдакладненні, «патанула» ў іх і вырашыла зняць законапраект з абмеркавання. Здавалася б, можна было б толькі вітаць гэткае сур'ёзнае стаўленне дэпутатаў да прымаемага закона. Калі б не губляўся дарагі час. Бо сотні, тысячы людзей на Веткаўшчыне, Хойнікшчыне, Брагіншчыне... жывуць ва «ўмоўна-выселеных» вёсках, дзе даўно ўжо жыць нельга, бо закон чакаюць сотні, тысячы «ліквідатараў», перасяленцаў і проста пацярпелых ад Чарнобыля. На пазамінулай сесіі дэпутаты прыпынілі на час работу, пабывалі ў забруджаных радыяцыяй раёнах, аднак, як бачым, анічога тая «экскурсія» не дала ні ім, ні заложнікам чарнобыльскай зоны...

Занадта шмат часу страцілі мы на тое, каб зразумець нарэшце простую ісціну, якую даўно сваім бяздзеяннем ўнушала нам Масква: выратаванне тых, хто тоне, — справа іх саміх... Цяжка гэта ўсведамляць, аднак, Маскве, краіне зараз не да нашых праблем. А пасля апошніх падзей ад нас можа адвярнуцца і сусветная грамадскасць. Мы застанемся сам-насам са сваім чарнобыльскім горам. І вось зноў ідзе марнаванне часу на дробязныя ўдакладненні і дапаўненні...

Гэтыя здымкі карэспандэнты БЕЛТА **С. Халадзілін** і **В. Шуба** зрабілі ў Гомельскім доме дзіцяці.

Таксама Чарнобыль?

НА ПАВАРОЦЕ

# БАЛТЫЙСКІ ЧАС

**ЗАДУМВАЮЧЫ на старонках «ЛіМа» новую рубрыку, свайго роду асабісты палітычны дзённік, я, натуральна, шукаў для гэтай рубрыкі адпаведную назву. Хацелася б як мага больш дакладна пазначыць наш скрутны час. І вось — «На павароце».**

**Цікава, што калегі, з якімі я папярэдне дзяліўся задумай, амаль аўтаматычна да слова «паварот» дадавалі — «правы». І каб жа яны не мелі рацыі... Штодня чуваць — «дэструктыўныя сілы», «моцная рука», «навесці парадак», «надзвычайныя паўнамоцтвы»... Некаторыя аналітыкі не выключаюць магчымасці ўсталявання ў бліжэйшы час такога рэжыму, у параўнанні з якім «брэжневізм» будзе выглядаць зусім прыстойна і досыць дэмакратычна.**

**Калі так, то інстынкт самазахавання павінен быў бы падказваць, што хроніку «правага павароту» лепш пісаць у шуфляду. Альбо — ужо цяпер пачынаць складаць для «Міжнароднай амністыі» спісы мяркуемых «ахвяр перабудовы». Журналісту, навучанаму чытаць паміж радкоў і ўслухоўвацца ў інтанацыі палітычных лідэраў, зразумела, чым могуць абярнуцца словы Прэзідэнта аб тым, што нельга «пакідаць без увагі, калі сродкі прапаганды, так, менавіта прапаганды — давайце называць рэчы сваімі імёнамі — знарок выкарыстоўваюцца для правакавання хаосу, панікі, нацыянальнай розні, для супрацьпастаўлення народа арміі, для заклікаў не лічыцца з законамі». А згадаць *нядаўна выказанае, таксама Прэзідэнтам, меркаванне аб тым, што* варта, мабыць, прыпыніць дзеянне Закона аб друку? Часова, вядома...**

**Але для мяне слова «паварот» усё ж не асацыіруецца толькі з адхіленнямі — ці то ўлева, ці то ўправа — ад магістральнага кірунку. Бо хто сёння дакладна скажа, дзе той бальшак, узбіўшыся на які, мы шпарка пакрочым да ўсеагульнага дабрабыту? Не думаю, што ўсё вернецца на кругі свая. ТАК жыць нельга, але нельга жыць і так, як мы жылі — пяць, дзесяць гадоў назад. «Назад нельга, бо старая ідэалагізаваная сістэма ўжо ніколі не ажыве і не запрацуе, — *лічыць І. Клямкін.* — Спыніцца нельга таксама, бо становішча распаду і развалу нікому і ніколі яшчэ замарозіць не ўдавалася». Перабудова вычарпала сябе, жыццю стала цесна ўжо і ў рамках, вызначаных ініцыятарамі вясны 85-га. Наспявае выбух. Як пазбегнуць крыві — значна большай, чым тая, што пралілася ўжо?**

**Грамадства — на павароце.**

**ВОСЬ УЖО некалькі тыдняў мы жывём па балтыйскім часе. Трагічныя падзеі ў Літве і Латвіі прымушаюць інакш успрымаць гадзіну розніцы паміж Вільнюсам і Мінскам. Гадзіна-папярэджанне, гадзіна-засцерагальнік... Вопыт падказвае: усё, што адбывалася ў апошнія гады ў Прыбалтыцы, у той ці іншай форме паўтаралася і ў нас.**

**Спрабую ўявіць наш пампезны, са шматлікімі прыбудовамі і хітраскладанымі сутарэннямі Дом урада, плошчу перад ім — на асадным становішчы. Не дзеля таго ўявіць, каб прыкінуць, дзе тут маглі б размясціцца барыкады, а — каб паставіць рубам такое вось пытанне. Як кажуць, барані Божа, і ўсё ж, калі што здарыцца—ці выплеснецца на вуліцы горада людское мора, каб падтрымаць, абараніць сваю законную ўладу?**

**Напэўна, не мяне аднаго ўстрывожыў той факт, што, паводле вынікаў сацыялагічнага даследавання, каля 30 працэнтаў апытаных падтрымліваюць прымяненне ўзброенай сілы ў Літве. Маўляў, так і трэба ім, «нацыяналістам» і «сепаратыстам»...**

**ЯКОЙ ЖА БЫЛА рэакцыя Вярхоўнага Савета БССР на падзеі ў Літве? Як вядома, 18 студзеня на сесіі прынята адпаведная заява — са словамі спачування, з асуджэннем ваенных дзеянняў супраць мірнага насельніцтва, з заклікам рэгуляваць усе канфлікты выключна палітычнымі метадамі.**

**Заўважым — толькі 18 студзеня. Успомнім — з якім скрыпам прымалася тая заява. Што і казаць, не самы светлы эпізод у дзейнасці нашага дэпутацкага корпуса.**

**Параўноўваю заяву Вярхоўнага Савета ад 18-га з іншым дакументам — падпісаным 83-ма дэпутатамі апазіцыі БНФ і Дэмакратычнага клуба ўжо 15-га. І — не бачу паміж імі прынцыповай розніцы. Але ж як упарта не згаджалася парламенцкая большасць абмяркоўваць сітуацыю ў *Літве! І як* марудна, чапляючыся за кожны абзац, літаральна за кожнае слова на старонцы машынапіснага тэксту, праходзіла галасаванне! Марныя спрэчкі, высвятленне адносін, хваравітая перапалка дыскрэдытавалі сам прадмет гаворкі. Цяжка сказаць, якім чынам завершыцца прыбалтыйскі крызіс, але ўжо цяпер відавочна, што аўтарытэт беларускага парламента істотна пацярпеў. Прыняцце заявы на шосты дзень пасля трагедыі — не больш чым фармальны акт.**

**ЧАМУ ТАК сталася? Адказ на гэтае пытанне — не ў сферы этыкі, а ў сферы палітыкі. Недалёкай, скампраметаванай, але ўсё яшчэ ўплывовай. Дэбаты па «літоўскім пытанні», асабліва спроба фракцыі камуністаў працягнуць альтэрнатыўны праект заявы, лішні раз засведчылі расстаноўку сіл на палітычнай арэне Беларусі. Зразумела, што кіраўніцтву КПБ не хочацца псаваць адносіны з таварышамі з КПЛ—КПСС, напрыклад, з ганаровымі гасцямі XXXI з'езда М. Буранявічусам і У. Шведам. Таму і з'яўляюцца дакументы, накшталт заявы каардынацыйнага савета Мінскага палітклуба «Камуніст» — «у сувязі з палітычнай правакацыяй экстрэмістаў з «Саюдзіса» ў Літоўскай ССР 13 студзеня 1991 года». Таму газета «Литва советская», старонкі якой спрэс запоўнены антылітоўскай прапагандай, выходзіць у ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарні ЦК КПБ...**

**Парламент, які трывае ўсё гэта, жартуе з агнём. Паміж Мінскам і Вільнюсам — усяго гадзіна розніцы.**

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

ны памяці ва ўсіх адносінах — маральных і мастацкіх. Журы конкурсу, абапіраючыся менавіта на шырокую грамадскую думку, у маі леташняга года падвяло вынікі першага тура. З дзевятнаццаці прадстаўленых праектаў пяць былі ўдастоены прэмій. Аднак станоўчасць вынікаў зусім не ў прэміях. Яны не з'яўляюцца сведчаннем таму, што ў праектах была ўвасоблена ідэя мемарыяла. Станоўчасць — у іншым. У тым, што пасля першага туру ідэя-канцэпцыя была нарэшце дакладна сфармулявана. Журы і грамадскасць катэгарычна адмаўляюць у будучым мемарыяле дзесяцігадовыя традыцыі стварэння монстраў з бетону, а, на жаль, большасць удзельнікаў прадставіла на конкурс менавіта такія бяздушныя і бездухоўныя прыклады гігантаманіі.

— Дык якім жа бачыцца ўсё ж мемарыял ва ўрочышчы Курапаты?

— Перш за ўсё — што такое Курапаты? У чым іх, так бы мовіць, незвычайнасць? Адказваю. Курапаты — гэта самыя вялікія безыменныя могілкі ў горадзе, могілкі без магіл, крыжоў, помнікаў і кветак. Праўда, сімвалічныя крыжы і валуны, як вядома, грамадскасць там па сваёй ініцыятыве ўстанавіла. Калі гаварыць пра нацыянальныя традыцыі, дык могілкі заўсёды мелі агароджу. Мелі браму і капліцу. Менавіта капліца, а не храм, павінна стаяць у курапатаўскім лесе, які, дарэчы, і сам з'яўляецца помнікам. Ідэя капліцы больш дакладная, бо сярод закатаваных — людзі розных нацыянальнасцей, веравызнанняў. Агароджа магла б несці элемент мастацкасці. А вось брама — характар палітычны. Я зараз працытую радкі са звароту да наведвальнікаў Курапатаў, што напісаў паэт Сяргей Грахоўскі, які прайшоў сам праз жахі ГУЛАГа. Ягоныя словы і маглі б быць адным з элементаў палітызацыі брамы. Вось яны, словы, звернутыя да сэрцаў і сумлення людзей: «Чалавек! Спыніся, схілі непакрытую галаву, і ты ў шуме соснаў пачуеш наш апошні крык і енк, апошнія ўдары нашых сэрцаў... Хто мы? Разам з намі знішчылі і нашы імёны, але ўсе мы роўныя перад Вечнасцю. Мы застанемся безыменнымі пакутнікамі ў памяці народнай, у сэрцах нашых нашчадкаў і наступнікаў. Памаўчы, прыслухайся да голасу ахвяраў сталінскага генацыду і пільна сачы, каб падобны жах ніколі-ніколі не ўпоўз крывавым прывідам на нашу зямлю...» Магла б быць у Курапатах і Алея пакутнікаў, але бетонным фігуратыўным «пакутнікам» там не месца. Трэба памятаць, і я звяртаюся да тых, хто будзе браць удзел у другім туры конкурсу, што сярод народа жывуць нашчадкі расстраляных, жывуць і не ведаюць, дзе ціха памянуць і запаліць свечку ў памяць сваіх згінуўшых продкаў. Пакуль і я сам не магу запаліць такую свечку ў памяць аб маіх рэпрэсіраваных дзядзьках... Мемарыял у курапатаўскім лесе павінен быць ціхім рэквіемам, бо жыцці людскія не вернеш. І яшчэ. Хацелася, каб як мага больш людзей выказалася праз друк, у пісьмах да журы пра ідэю-канцэпцыю. Пісьмы можна накіроўваць на адрас: Мінск, Ленінскі праспект, 81, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут.

— Васіль Пятровіч, пытанне пра сродкі на мемарыял...

— Ясна адно: асноўныя сродкі павінна даць дзяржава, якая, мушу заўважыць, павінна выкупіць сваю віну. Але ўзнікла пытанне, чаму ж у гэтай высакароднай справе не могуць удзельнічаць людзі — і былыя вязні, і тыя, хто не зведаў жахаў рэпрэсій? Таму ў Мінскім гарадскім фондзе культуры быў адкрыты рахунак на добраахвотныя ахвяраванні грамадзян, устаноў, прадпрыемстваў. На гэты рахунак 702903 Белжылсацбанка паступіла ўжо дзесяткі тысяч рублёў. Мы ўдзячны кожнаму, хто зрабіў свой уклад. Мы таксама разам з Мартыралогам Беларусі пералічваем на рахунак грошы ад дабрачынных акцый, сабраных на жальбінах, вечарах памяці ахвяраў сталіншчыны. На жаль, даводзіцца канстатаваць, што такія ахвяраванні не зрабілі нашы буйныя прадпрыемствы - монстры. А між тым, кіраўнікі іх праязджаюць на «мерседэсах» і «фордах» міма курапатаўскага лесу, але ім не баліць... Заклікаць да сумлення? Думаю, варта помніць адно: мы ўсе — вінаватыя і невінаватыя — абавязаны прайсці праз духоўнае ачышчэнне. І адно з выпрабаванняў — мемарыял у Курапатах.

— Застаецца пажадаць дастойнага ўвасаблення ідэй у жыццё ў другім туры. Дзякуй, Васіль Пятровіч, за гутарку.

**Л. КРУШЫНСКАЯ.**

**ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ**

# ХРАМУ— НАЦЫЯНАЛЬНАЕ «АБЛІЧЧА»

Напісаць гэты допіс мяне прымусілі артыкулы ў «ЛіМе» «Хто крыўдзіць праваслаўных?» Ірыны Жарнасек, а таксама «Падводныя камяні» Юрыя Лакаўца. Гэтыя артыкулы, як і артыкул Анатоля Сідарэвіча «Забастоўка ў Вярэйках», прысвечаны канфесійным непаразуменням. Аднак я—пра іншае. У згаданых публікацыях гаварылася пра тое, што ў Наваполацку і ў Вярэйках мяркуецца пабудаваць новыя бажніцы. Добра, але думаю, што пытанні адносна пабудовы святыняў узнікнуць не толькі ў месцах канфесійных непаразуменняў, але ў тых гарадах і мястэчках, дзе яны калісь былі разбураны, у новых гарадах, якія ўзніклі на працягу апошніх дзесяцігоддзяў, дзе храмаў наогул ніколі не было (вернікі ўзнімуць пытанне адносна неабходнасці іх пабудовы).

Напэўна, не ўсе беларусы да канца ўсвядомілі, што мы маем не толькі родную беларускую мову, сваю ўласную гісторыю, культуру, літаратуру, але і сваю ўласную архітэктуру, у прыватнасці, царкоўную (касцельную). Каб у гэтым пераканацца, дастаткова пабываць у трох-чатырох беларускіх гарадах (Глыбокім, Полацку, Мінску, Івянцы), дзе ўзведзены святыні ў так званым стылі «віленскага барока». Наведайцеся ў іншыя сумежныя рэспублікі — Латвію, Украіну, Эстонію і Расію — і вы там нічога падобнага не знойдзеце, акрамя, можа, некаторых блізкіх да мяжы Беларусі раёнаў Латвіі і Смаленшчыны (але гэта этнічныя беларускія землі). Еўрапейскаму барока нашы мясцовыя беларускія дойліды зрабілі арыгінальную беларускую інтэрпрэтацыю. Акрамя таго, не толькі для барокавых, але і іншых архітэктурных накірункаў былі распрацаваны свае тыпы купалаў і крыжоў. І, як адзначыў айцец Леў Гарошка ў сваёй кнізе «Пад знакам «рускае і польскае веры», цыбулепадобныя купалы і крыжы з касавінаю для Беларусі ніколі не былі характэрнай з'явай, у прыватнасці, для праваслаўных святыняў. Цыбулястыя купалы і крыжы з касавінаю з'явіліся на нашых храмах пасля 1795 года, калі маскоўскі акупацыйны рэжым пачаў праводзіць палітыку русіфікацыі з будаўніцтвам храмаў у так званым псеўдарускім стылі, каб замацаваць на прылучанай Беларусі «рускі дух».

Недзе на пачатку 1970-х гадоў, а тады я вучыўся ў 9 ці 10 класе і жыў у Глыбокім, набыў я кнігу (фотаальбом) Зянона Пазняка «Браслаўшчына». Фарзац гэтае кнігі аздабляў здымак сцяны Зарачанскага млына. Муроўка сцяны выканана ў тэхніцы беларускага каменнага арнаменту. У гэты час я вельмі любіў падарожнічаць на ровары па ваколіцах роднага Глыбокага і знайшоў там чатыры будынкі: царква ў Мамаях, млын у Старых Шарабаях, царква ў Верхнім, касцёл у Мосары, якія маюць часткі будынкаў, альбо асобныя збудаванні (вежы, брамы), якія выкананы муроўкай у тэхніцы беларускага каменнага арнаменту. Гэтыя будынкі, акрамя царквы ў Верхнім, пабудаваны ў стылі класіцызму. Як бачым, не толькі барока, але і класіцызм набываў на Беларусі сваю адметную афарбоўку. Шмат падобных будынкаў я бачыў і на Пастаўшчыне. На жаль, прыгожы вадзяны млын у Старых Шарабаях, цалкам выкананы муроўкай у тэхніцы беларускага каменнага арнаменту, тры гады таму зруйнавалі, і ён застаўся ў мяне толькі на фотаздымках.

З усяго вышэйзгаданага хачу зрабіць заключэнне. Беларускі народ заўсёды імкнуўся да самабытнасці, а дойлідства з'яўляецца адным са стаўпоў, на якім трымаецца нацыянальная самасвядомасць. Будуць будавацца на Беларусі новыя святыні. Добра будзе, калі на месцы калісь знесенай святыні адновіцца будынак у яго ранейшым стылі (захаваліся ж у архівах здымкі, гравюры, чарцяжы). А як быць у такіх гарадах (Новалукомль, Салігорск, Светлагорск, Наваполацк), дзе ніколі не было святыняў, ці, напрыклад, у самых буйных гарадах Беларусі, якія значна пашырыліся апошнімі дзесяцігоддзямі? Тут мясцовы «бацюшка» (які будзе ў ролі заказчыка) замовіць праект у Маскве ці Ленінградзе ў стылі «мураўёўкі» сярэдзіны XIX стагоддзя, ці мясцовы ксёндз замовіць праект касцёла недзе ў Варшаве ці Кракаве. Вось тут пажадана, каб у нас на Беларусі была свая архітэктурная майстэрня, якая займалася б распрацоўкай праектаў культавых будынкаў уласна для Беларусі. Мяркую — гэта справа не ўнутрыцаркоўная, а нацыянальная. Напэўна, трэба распрацаваць нават свой архітэктурны «стыль», які б сімвалізаваў беларускае Адраджэнне канца XX стагоддзя. Можа, як і беларускія дойліды мінулага, распрацаваць для нашага часу і свае адметныя тыпы купалаў (крыжы я ўсё ж пакінуў бы без змены, тыпова беларускія, з ззяннем), парталаў і г. д. Праект святыні павінен выбірацца шляхам конкурснага адбору. У склад журы павінны быць уключаны беларускія мастакі, мастацтвазнаўцы, дойліды. Пры нашым цяперашнім нізкім узроўні нацыянальнай самасвядомасці я б не рызыкнуў выстаўляць праект на ўсенароднае абмеркаванне. Вынік загадзя вядомы: у нас зноў пачнуць узводзіць «мураўёўкі». Напэўна, трэба заключыць двухбаковае пагадненне: Беларускі фонд культуры, Саюз мастакоў Беларусі, Саюз архітэктараў Беларусі — з аднаго боку, біскуп Кандрусевіч і мітрапаліт Філарэт — з другога, каб усе праекты святыняў распрацоўваліся беларускімі дойлідамі і ўсе храмы мелі рысы нацыянальнай архітэктуры.

**У. СКРАБАТУН,**
**інжынер.**
**г. Вентспілс, Латвія.**

**НУ І НУ!**

# КАПЕЙКА—ГРОШЫ?

Днямі рэдакцыйная пошта прынесла такі ліст:

«Чытаю газеты і дзіўлюся: людзі пішуць, што эканоміка ў краіне заняпала, атаварыць грошы немагчыма, паліцы магазінаў пустыя... Можа, дзе-небудзь гэта і так, але толькі не ў нас, не ў Плешчаніцах. Не, я не скажу, што ў крамах надта шмат мяса і кілбас. А вось з абуткам — ну проста аніякіх праблем! Нават і для тых, у каго грошай — кот наплакаў. Мяркуйце самі. Мне, напрыклад, хапіла дзесяці капеек, каб купіць ці не мех жаночых чаравічкаў і басаножак. Ажно дзесяць пар! Вядома, не «мантана», як дзеці кажуць, не крык моды, але — насіць можна: зусім навенькія і колераў самых розных.

Вось і вер пасля гэтага газетам!

А мне ўсё думаецца: калі дзяржава прадае пару басаножак за капейку, то што гэта такое? Не магу дабраць да галавы...

Аўтарка ліста Г. Яскевіч (жыве яна ў Лагойскім раёне) недаўмявае з такой цаны жаночых басаножак (хай сабе і не модных, састарэлых). А вось Міхаіл Міхайлавіч Петрашэнка, намеснік старшыні Мінскага аблспажыўсаюза, не здзівіўся, калі мы пазнаёмілі яго з лістом нашай чытачкі. Зусім спакойна ён паведаміў, што з такімі чыста сімвалічнымі цэнамі сустракаліся жыхары многіх раёнаў рэспублікі. Абутак гэты, маўляў, заляжалы, купляць яго ніхто не жадае, даводзілася ўцэньваць раз, другі, трэці... Спрабавалі сямтам бясплатна перадаць такі абутак у школу-інтэрнат, ды ад яго адмовіліся. У выніку яшчэ адна ўцэнка... да мінімуму, да капейкі...

«І наогул,— завяршыў таварыш намеснік старшыні,— за год мы ўцэньваем тавараў на тры мільёны рублёў. Так што нічога страшнага ў Плешчаніцах не адбылося...»

Можа, сапраўды нічога страшнага. Ды толькі як сказаць. Мы ўжо ці не страцілі крытэрый гэтай самай страшнасці. Чыталі ж не так даўно, што спісаны абутак тысячамі пар спальваўся ў калгаснай кацельні. Чыталі і пра выкінутае на сметнікі мяса, тысячы бляшанак кансерваў.

У дадзеным выпадку нібыта штосьці іншае. Не выкінулі, не спалілі — уцанілі. Аднак ці ёсць хоць грам элементарнай логікі ў такой уцэнцы? Ці не здзек гэта над здаровым сэнсам? Няўжо нельга было нейкім іншым чынам распарадзіцца нехадавым абуткам? Скажам, перадаць органам сацыяльнага забеспячэння, вярнуць на фабрыку другаснай сыравіны? Бо —ці ж цана гэта: 1 капейка? Ці не скрут галавы гэта?

Адным словам, ну і ну!




Малюнак А. ВАНСОВІЧА.

**КАЖУЦЬ, ШТО...**

# ДНЁМ З АГНЁМ

**не знойдзеш у Мінску кваліфікаваную машыністку, якая дасканала валодае роднаю мовай...**

З гэтай праблемай, як мы пачулі, сутыкнуўся нядаўна апарат Саюза мастакоў Беларусі. Шчыра адгукнуўшыся на заклік беларускага парламента не на словах, а на справе ўводзіць у жыццё Закон аб мовах, сакратарыят праўлення саюза вырашыў дзейнічаць, г. зн. — весці дакументацыю па-беларуску.

Аднак славуты дэфіцыт машынак з беларускім шрыфтам, можна сказаць, блякне ў параўнанні з дэфіцытам рук, якія павінны «выціскаць» з гэтых машынак словы на роднай мове.

Старшыня Саюза мастакоў Беларусі Генадзь Буралкін расказаў нам, што пытанне з кваліфікаванай «беларускамоўнай машыністкай» вось ужо на працягу амаль года застаецца нявырашаным. Саюз, спісаўшы шмат паперы на абвесткі аб тым, што, маўляў, «запрашаем на працу... з акладам да 200 рублёў...», вырашыў звярнуцца ў Мінскі гарадскі цэнтр па працаўладкаванні, пераналучанні і прафарыентацыі насельніцтва з просьбай аб дапамозе. Так, прыходзілі дзяўчаты-самавучкі, але — ні кваліфікаванага машынапісу, ні, тым больш, ведання мовы яны не прадэманстравалі. У выніку сакратары саюза падпісалі працоўнае пагадненне з машыністкай, якая валодае... англійскай мовай. Праўда, спрабуе саюз наладжваць і міжнародныя кантакты.

Мы вырашылі ўсё ж даследаваць праблему з «беларускамоўнай машыністкай» на ўзроўні, калі можна так сказаць, біржы працы, а значыць — таго самага Мінскага гарадскога цэнтра па працаўладкаванні, перанавучанні і прафарыентацыі насельніцтва. Як паведаміў нам намеснік дырэктара Цэнтра Сяргей Васільевіч Такарэўскі, праблема гэтая бадай невырашальная. Чаму? Такія кадры для горада не рыхтуюцца. Дзяўчаткі пасля школы або самі спасцігаюць азбуку машынапісу, вядома ж, па-руску, або, у лепшым выпадку, заканчваюць курсы пры ДТСААФе або Доме афіцэраў, таксама па-руску. Фактычна тая ж праблема, сказаў С. Такарэўскі, і з падрыхтоўкай сакратароў-машыністак для арганізацый і ўстаноў горада. Так што, рэзюмаваў ён, нават тым няшмат многім арганізацыям, якія звяртаюцца да нас з просьбай накіраваць на працу машыністку з валоданнем беларускай мовай, мы дапамагчы не ў стане.

На заканчэнне нашай тэлефоннай гаворкі С. Такарэўскі заўважыў, што ў іх, у Цэнтры, таксама існуе праблема з роднай мовай. Таму нядаўна дваццаць супрацоўнікаў былі накіраваны на трохмесячныя курсы па аваладанні беларускай мовай, якія працуюць у Рэспубліканскім вучэбным цэнтры Міністэрства жыллёвай гаспадаркі БССР. «Хоць і дарагавата,— зазначыў Сяргей Васільевіч,— усё ж плацім звыш дзвюх тысяч рублёў за курс навучання, але рыхтуемся накіраваць на курсы , наступную партыю супрацоўнікаў. Закон аб мовах павінен жыць...»

Згодны, павінен. Але саматужныя намаганні наўрад ці ўдыхнуць у яго жыццёвыя сілы. Менавіта дзяржаве трэба паклапаціцца пра, здавалася б, не самыя важныя кадры ў вытворчым працэсе — пра машыністак з веданнем беларускай мовы, у прыватнасці. Пагадзіцеся, што без іх дапамогі і акадэміку будзе цяжка данесці свае каштоўныя думкі да людзей.

P. S. Саюз мастакоў Беларусі шукае машыністку з веданнем беларускай мовы і па сённяшні дзень. Адгукніцеся, дэфіцытныя кадры...

АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ

# Давайце думаць

## Пра дзіцячыя згадкі і дарослыя здагадкі

**Наша жыццё складаецца з падзей — вялікіх і дробных, значных і нязначных. З радасцяў і непрыемнасцяў, з удач і няўдач. Адны падзеі мы забываем да заўтрашняй раніцы, іншыя — памятаем усё жыццё. І такімі яны падчас здаюцца неістотнымі, што сам не разумееш: навошта яны сядзяць, як стрэмкі, у тваёй свядомасці?**

Такое, напрыклад, не магу забыць. Прыём у піянеры. Школка драўляная, сельская, на дзве паловы падзеленая. Паставілі нас у шарэнгу, і настаўнік завязвае гальштукі. Працэдура ідзе гладка, хоць і без асаблівай урачыстасці. І раптам збой, неспадзяванка: адзін хлапчук утульвае галаву ў плечы, не даецца! Не хоча гальштука! Яму бацькі— веруючыя — не дазваляюць. Наш высокі, мажны настаўнік настойвае, пачынае злавацца, потым, раз'юшаны, сілком зацугліваае непакорную галаву і завязвае на вузел чырвоны трохкутнік. Вось яна, сапраўдная школа жыцця! Гэта вам не прописы, не двойчы два — чатыры...

Сума ідавочна не сходзілася. Было над чым падумаць-паразважаць, я ж неяк выцесніла прыкры эпізод са свядомасці — на шмат гадоў і дзесяцігоддзяў. Але ён усё роўна ўсплыў, вярэдзіць. Навошта?

Той настаўнік даўно памёр. Піў, казалі, моцна ў апошнія гады. Што з хлапчуком — не ведаю, хутка я з бацькамі пераехала ў другі раён Міншчыны. Недзе ж ён жыве, працуе, гадуе дзяцей — калі толькі і яго не загубіла гарэлка, не пырнулі нажом у вясковай бойцы, не адбілі ныркі ў арміі. І як яму, цікава, прышпільвалі камсамольскі значок? Таксама сілком?

О, камсамол! Ты цэлая старонка ў нашай школьнай біяграфіі. На сходзе шум, гам, а выдатніца чытае па паперцы праверанае настаўніцай выступленне. А якія прадстаўленні наладжваліся зрэдзь часу для прадстаўнікоў зверху! Адно з іх, помніцца, я добра-такі падпсавала: устала і сказала ўсё як ёсць. А пасля сходу плакала, як той закілзаны піянер, бо высокая госця паверыла не мне, а справаздачнаму дакладу. І ў прэзідыуме, вядома, сядзеў мясцовы «розум, гонар і сумленне»...

З камсамолам у мяне звязана яшчэ адна непрыемная гісторыя. Як сакратар настаўніцкай камсамольскай арганізацыі я была паслана на раённую канферэнцыю. Там збояў не дапускалі, працэдура выбараў прадумана да драбніц. Калі пры тайным галасаванні я ўздумала прагаласаваць супраць аднаго з раённых важакоў, то мяне далікатна папраўілі. Пры абнародаванні вынікаў аказалася, што ўсе сто працэнтаў «за». Вы думаеце, я ўстала і спытала, куды падзеўся мой голас? Не, на гэты раз у мяне не хапіла мужнасці. Я ўжо была «вучоная». Я ведала, што нічога не змяню, не папраўлю, што мой голас слабей, чым камарыны піск. Менавіта гэтае «мудрае» веданне і робіць нас у лепшым выпадку — палахліўцамі, у горшым — прыстасаванцамі і халуямі.

**Разважаю пра юнацкую пару, пра сваё пакаленне і зразумець хачу: ці мы не ўмелі, ці не хацелі думаць? Як тыя немаўляты з лыжачкі, мы глыталі разжаваныя ісціны, сходу засвойвалі іх, і нас ніколі не турбавала якасць спажытага. Такія выразы, як «савецкая ўлада», «дыктатура пралетарыяту», «дэмакратычны цэнтралізм», здаваліся непарушнымі пастулатамі, трыма кітамі, на якіх трымаецца дзяржава і наша ўласнае існаванне. Усе сумненні адскоквалі ад свядомасці, як гарох, як пінг-понгавыя шарыкі. І чым часцей мы паўтаралі гэтыя паняцці, тым больш яны станавіліся нейкай «рэччу ў сабе», недаступнай здароваму разуменню. Значэння многіх слоў, я перакананa, мы проста не ўсведамлялі, іх сэнс быў для нас цьмяным і няпэўным. Ну вось, напрыклад, «савецкая ўлада». Ва ўмовах вёскі ўлада гэтая адказвала ў асноўным за тое, каб зрэдку мяняліся ўпаўшыя ад даўнасці платы. Дровамі яшчэ, здаецца, займалася і торфам, даведкі выдавала, шлюбы рэгістравала. Старшыня сельскага Савета быў начальнік невялікі і звычайна павагай у людзей не карыстаўся (не з-за пасады — кадры такія падбіраліся). Хай бы ж я задумалася, з медалём канчаючы школу, што гэта за ўтварэнне такое — саветы — і чаму яны лічацца палітычнай асновай нашага грамадства. Каму выгадна было імі прыкрывацца, каб валодаць паўнатой улады ды нідаць крошкі ад салодкага пірага чыноўнікам з тых жа саветаў, прафсаюза, камсамола?**

**Або — «дыктатура пралетарыяту». «Дыктатура» ад слова «дыктат», «дыктаваць». Што дае падставу пралетарыяту дыктаваць сваю волю? У чым яго перавага над астатнімі класамі і праслойкамі? Толькі ў тым, што ён стварае матэрыяльныя каштоўнасці? Але перш, чым стварыць што-небудзь, неабходна гэтае «што-небудзь» прыдумаць, сканструяваць, чым пераважна занята інтэлігенцыя. А яшчэ ж і вытворчасць наладзіць трэба, збыт, што няблага атрымліваецца ў так званых капіталістаў. Перадусім — каб думаць, арганізоўваць і вырабляць, трэба наетым быць, накормленым, за што мы кажам дзякуй сялянам. Выходзіць, што і перавагі няма, а ёсць пагадненне класаў: кожны робіць тое, што ўмее, і тым падтрымліваецца жыццядзейнасць грамадства. Кухарцы зусім неабавязкова ўмець кіраваць дзяржаваю— абы стравы не прыгаралі.**

**Як, з самім Леніным уступаем у палеміку?! Не мы — само жыццё ўступіла і спрачаецца досыць пераканаўча.**

Засталося паразважаць — на тым жа бытавым узроўні — пра дэмакратычны цэнтралізм. Ну, гэта і наогул вышэй разумення. Накшталт латыні для папуаса. «Дэмакратычны» ад «дэмакратыя». Апошняе азначае тое, што было ў старажытнай Грэцыі і яшчэ там-сям. Праўда, усе даўнейшыя дэмакратыі былі для багатых, і толькі сацыялістычная — сапраўдная, для працоўных. І гэты самы прынцып, аказваецца, спрыяе развіццю ўнутрыпартыйнай дэмакратыі! Якім чынам? Загадка. Як можа ён называцца **дэмакратычным**, калі маецца на ўвазе прамое падпарадкаванне вышэйстаячым органам? Думаць з партыйным білетам было, аказваецца, непажадана. Як і без яго.

Тых, што сёння адмаўляюцца ад білетаў, апаненты вобразна абзываюць пацукамі, што ўцякаюць з тонучага карабля. Пацук істота малапрывабная, але не дурная. Не тануць жа яму разам з іржавай пасудзінай!

Не, думаць сапраўды не прывыклі — ні над словамі, ні над паняццямі, ні над рэаліямі. Што ўжо казаць пра вялікую палітыку. Яна давала поўны прастор эквілібрыстам-міжнароднікам. Экспарт сацыялізму ў слабаразвітыя краіны выдаваўся за сусветны рэвалюцыйны працэс, падкормліванне псеўдакамуністычных рэжымаў — за інтэрнацыянальную дапамогу. Кляймілі агрэсію ЗША ў В'етнаме, а пасля ўздымалі на патрыятычны шчыт пакутную афганскую эпапею...

Не вер вушам сваім, чалавек. З цябе рабілі бяздумны аўтамат для выканання бяздумных рашэнняў, табе стварылі ўсе ўмовы для духоўнай і фізічнай дэградацыі: спажывай нітраты, пі «пладова-выгаднае», крычы «ўра» на дэманстрацыях, ганарыся сабой і сваім ладам перад цэлым светам. Чаго табе яшчэ трэба? Зусім нямногага — валодаць праўдзівай інфармацыяй і самастойна думаць. Бачыць перспектыву, а значыць прорву ля ног. Мець роўна столькі свабоды, каб сілком гальштука не надзявалі і статкам не гналі ў «ленінскі камуністычны», каб лозунгі «Слава КПСС!» не вывешваліся па загаду начальніка з КПСС, каб на гэтага дрымотнага карася ды яшчэ шчупак знайшоўся...

Дзеля ўсяго гэтага і разварушыў савецкі мурашнік наш генсек і прэзідэнт. А мо і з другімі мэтамі і намерамі, аднак — разварушыў, прымусіў разважаць і рабіць вывады, сумнявацца і саромецца, пакутаваць і спадзявацца. Бо раней, да перабудовы, спадзявацца нам не было на што. Адно толькі сёння палохае — кароткае слова «рынак», значэння якога мы таксама пакуль не разумеем. Дасць Бог, і яго сэнс праясніцца...

Пачала з дзіцячай згадкі, а скончыла балючымі пытаннямі сённяшняга дня. Значыць, успаміны — не проста выпадковае счапленне нейронаў у мозгу, не проста гульня асацыяцый. Рана ці позна яны выстройваюцца ў стройную сістэму і завяршаюць сабой карціну свету. Давайце ж думаць, сябры. Успамінаць і азірацца па баках, прыглядацца да новага і напаўняць першародным зместам пустыя прапагандысцкія абалонкі. Самы час!

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

**ДАЗВОЛЬЦЕ, ДЗЯДЗЕЧКА**

# Які ж сэнс?

Шаноўныя чытачы!

Ці памятаеце вы заключныя радкі трылогіі Аляксея Талстога «Блуканне па пакутах»? Прыгадваеце? Галоўныя героі кнігі пад заслону апынуліся ў будынку Вялікага тэатра, дзе адбывалася «гістарычнае» пасяджэнне аб плане ГОЭЛРО, дзе гучалі «крылатыя» пасля словы «Камунізм ёсць савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны», дзе перад прысутнымі разгортваліся «велічныя перспектывы камуністычнага росквіту». І, памятаеце, узрушаны Рошчын прашаптаў Каці на вуха: «Ты разумееш — які сэнс набываюць усе нашы намаганні, пралітая кроў, усе невядомыя і маўклівыя пакуты... Свет будзе перабудоўвацца намі дзеля дабра...» Памятаеце?

Я асабіста памятаю гэтыя словы са школьных гадоў. Калісьці яны расчульвалі мяне. Гэтаксама, як расчуліла Рошчына цемнаватая зала Вялікага тэатра і ціхія словы чалавека ля карты, аздобленай электралямпачкамі. Які сэнс набываюць усе нашы намаганні? Вядома ж, які! Велізарны сэнс! Галоўны! Вызначальны! Вось дзеля чаго былі ўсе пакуты і пралітая кроў, вось у імя чаго ішоў брат на брата, сын на бацьку...

Апошнія гады словы гэтыя не згадваліся. А калі і прыбягалі на памяць, дык тут жа сарамліва праганяліся прэч: не трэба, дзеля ўсяго святога, не трэба пра нашу колішнюю прагу перабудоўваць свет, пра «жахлівае» дабро, дзеля якога рабілася тое перабудоўванне...

А сёння, дайце веры, у мяне ўвушшу зноў назойліва круціц[illegible] самае пытанне: які сэнс набываюць усе нашы намаганні? Пытанне гэтае адасобілася ад сцэны ў Вялікім тэатры, ад кнігі Талстога, але яно неадступна са мною. Што б ні рабіў, дзе б ні быў — яно прыходзіць да мяне зноў і зноў, упарта стаіць перад вачыма, каляным прутом уторкваецца ў грудзі, цяжкім молатам б'е па галаве: які сэнс набываюць усе нашы намаганні? Які сэнс?

Сапраўды, які?

Пачатак перабудовы прынёс нам надзею, спарадзіў веру. Нарэшце! Вось ён, доўгачаканы час праўды і справядлівасці. Расчыняй шырока дзверы, вольная старонка! Развінай свае крылы!

Мы акрыялі. Гэта ж праўда, шаноўныя чытачы, мы ўсе акрыялі. Мы паверылі. Мы ўздыхнулі з палёгкай і спадзяваннем. Мы адкрыта, не баючыся, загаварылі пра нашы беды, пра тое, што не ўсё яшчэ страчана, што ў нас ёсць яшчэ шанц збудзіцца, адрадзіцца, паўстаць з небыцця, згуртавацца, адолець доўгачасовую апатыю і рушыць у заўтрашні, лепшы дзень, у вялікую сям'ю вольных народаў.

Але мінуў год, другі, трэці... І — палезлі ў галаву вось гэтыя трывожныя, неадступныя пытанні: які сэнс набываюць усе нашы намаганні? Які сэнс?

Мяркуйце самі. Прыняты Закон аб мовах у Беларускай ССР, які абвясціў нашу мову дзяржаўнай у рэспубліцы, і Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы... Адкрыліся сям-там беларускамоўныя класы... Зроблены першыя спробы нешта выкладаць па-беларуску ў тэхнікумах і інстытутах... Падрыхтаваны і выпушчаны некаторыя падручнікі і вучэбныя дапаможнікі... Узнікла і робіць першыя крокі Таварыства беларускай мовы... Павялічыўся аб'ём і перыядычнасць часопіса «Спадчына»... Заявіла аб сабе краязнаўчае таварыства... Адчыніўся першы нацыянальны гуманітарны ліцэй...

Але... Тыя нешматлікія беларускамоўныя класікі застаюцца [illegible]асаблівымі рэзервацыямі для гаротных дзетак гаротных тутэйшых... Спробы асобных энтузіястаў выкладаць нешта па-беларуску ўспрымаюцца не больш, чым дзівацтва...ТБМ не толькі не знаходзіць падтрымкі з боку партыйных і дзяржаўных кіраўнікоў абласцей і раёнаў, але і трэціруецца, ганьбуецца нароўні з БНФ і іншымі так званымі нефармальнымі ўтварэннямі... Закон аб мовах і праграма развіцця беларускай мовы застаюцца ўсяго толькі папяровымі актамі, яны так і не набылі дзейснай сілы... Краязнаўчае таварыства дагэтуль не зарэгістравана...

**Ды ці ёсць сэнс пералічваць? Уся наша штодзённасць нястомна спараджае ўсё тое ж пытанне: які сэнс набываюць нашы намаганні? Дзяржаўнай палітыкі падтрымкі ўсяго беларускага як не было, так і няма. Усё робіцца не так, як у людзей. Зірніце. Вярхоўны Савет прымае Дэкларацыю аб незалежнасці, Закон аб дзяржаўнасці мовы, а сам працуе не на роднай мове. Дзе, у якой краіне свету, ды што гаварыць пра краіны свету, — дзе, у якой саюзнай рэспубліцы магчыма такое, каб законы і пастановы незалежнай дзяржавы прымаліся на іншай мове, а пасля ўжо перакладаліся на мову карэннага народа? Як можна спакойна ўспрымаць тое, што кіраўнікі рэспублікі, абласное і раённае начальства не можа звязаць і двух слоў на роднай мове народа, якім кіруе і аб долі якога павінна дбаць? Якое пасля гэтага яно, гэтае дбанне?! Сітуацыя — ці не каланіяльная! Прынамсі, толькі ў калоніях адміністрацыя размаўляе з народам не на мове народа.**

Куды ні кінь, усюды клін. Вы, нашы чытачы, колькі разоў пісалі нам пра гэтыя і іншыя недарэчнасці, якіяназіраюцца ў незалежнай рэспубліцы Беларусі. Абрыдла гаварыць і пісаць, скажам, пра тое, што апошнім часам робіцца на нашых дарогах. Там паўсюдна ставяцца новыя ўказальнікі. Але — якія? Назвы нашых населеных пунктаў падаюцца спачатку на рускай мове, а пасля перакладаюцца на беларускую. Няўжо трэба даказваць, што гэта — нонсенс, недарэчнасць? Чаму мы, жыхары, насельнікі, гаспадары гэтай зямлі, павінны перакладаць свае імёны-назвы з расійскай мовы на сваю? Яны ж узніклі і жылі стагоддзямі менавіта ў беларускім гучанні. Калі нейкі недалёкі гаспадарнік дапусціў глупства, дык трэба яго неадкладна паправіць, а не тыражаваць яго глупства па ўсёй рэспубліцы.

У законе аб мовах, зважаючы на рэальную сітуацыю ў рэспубліцы, гаворыцца не толькі аб беларускай мове, але і аб рускай. Сталася так, што руская мова заняла велізарнае месца ў жыцці рэспублікі, ігнараваць гэта проста немагчыма. Але ж палітыка рэспублікі павінна быць нацыянальнай, у імя свайго народа, дзеля ягонага росквіту і жыццядзейнасці. Значыць, рэжым найлепшага спрыяння, так бы мовіць, павінен стварацца найперш усё ж для беларускай мовы. Няўжо гэта так складана, цяжка зразумець? Чаму ж тады, скажам, кіёскі завалены рускамоўнымі газетамі і газеткамі, якія растуць, нібы грыбы пасля дажджу? Нехта скажа, што забарона ці рэгуляцыя іх будзе ўшчамленнем правоў асобы. Ну а хто патурбуецца ў такім разе пра ўшчамленне правоў народа? Няўжо рэспубліка, якая абвясціла свой дзяржаўны суверэнітэт, павінна ў некага пытаць дазволу на тыя ці іншыя дзяржаўныя акты?

**Усе пасляваенныя дзесяцігоддзі невядома з чыёй ласкі і дзеля чаго, у імя якіх мэт і задач шэраг газет у абласцях і раёнах Беларусі выходзіць на рускай мове. Чакалася, што з пачаткам перабудовы, з пачаткам нацыянальнага адраджэння яны будуць пераведзены на беларускую мову. Дык жа не! Адбылося нешта проста неверагоднае! Рускамоўныя выданні і засталіся рускамоўнымі, а некаторыя (і нямала!) беларускія газеты раптам зарэгістраваліся і пачалі выходзіць на дзвюх мовах. Толькі ў Беларусі, бадай, узнік такі вось гібрыд — двухмоўныя, «трасяначныя» газеты.**

**Зрэшты, ва ўмовах Беларусі ў іх выданні ёсць, паспрабуем пагадзіцца, нейкая логіка. Ну, скажам, на пэўны час, пакуль людзі ачомаюцца, сёе-тое зразумеюць, а то і падвучацца ды і пахінуцца да роднай мовы. Але ж, калі праўду казаць, становішча моў на старонках гэтых «гібрыдных» выданняў вельмі ж нераўнапраўнае: там яўна пераважае мова руская. І хто дасць гарантыю, што такія выданні не напаткае лёс, скажам, штотыднёвіка «7 дзён» (дарэчы, цікавага і змястоўнага)? Пачаў ён з двухмоўя, але вельмі хутка адкінуў гульню ў дэмакратыю і цалкам перайшоў на «великий и могучий». І рэдактар гэтага адзінага перыядычнага выдання дзяржаўнага тэлеграфнага агенцтва незалежнай Беларусі, ні кроплі не бянтэжачыся, радуецца, што тыраж штотыднёвіка пасля гэтага вырас у тры разы! Калі выданне «7 дзён» — дзяржаўная палітыка, дык што тады азначае — антыдзяржаўная? Хай мне даруе Бог, але гэтакая радасць — як сконі на могілках. Спажывай, як мага шырэй, спажывай, беларускі народзе, рускую братнюю мову. І тым самым забывай сваю, адхрышчвайся ад яе канчаткова і назаўсёды.**

**А каб жа не памерці, завяшчаў нам наш першы нацыянальны паэт, найперш трэба не выракацца роднай мовы!**

На мяне ж пасля гэтага могуць засыкаць: нацыяналіст! Ды не могуць, а — засыкаюць. За доўгія гады навучылі сыкаць, напладзілі слоў-пудзілаў, накшталт слова «нацдэм», аднаго вымаўлення якіх было дастаткова, каб асудзіць чалавека на пакуты, а заадно і на смерць. Многія і сёння, на жаль, памятаюць і тыя словы, і практыку іх шырокага ўжытку.

Вось і прыбягае тое неадчэпнае пытанне:

— Які сэнс набываюць усе нашы намаганні? Які сэнс?...

**ЛІМАВЕЦ.**

**Юры ІВАНОЎСКІ**

●

Мой дзень, даспелы у бядзе,
Звініць нядоляю-тугою.
То дождж атрутны ападзе
З крывава-чорнаю смугою;

То здані сталінскай жуды
Злавесным рэхам пагражаюць;
То Курапаты — праз гады —
З пары далёкай ажываюць;

То пахкія смярдзючым тлом
Сялібы родныя знікаюць,
Людзей чарнобыльскіх жытло
Магільным жвірам засыпаюць...

Мой дзед шыбуе спакваля,
З мінулым зводзячы рахунак.
Ды толькі цвёрда веру я,
Што ў тым сляза, як паратунак.

г.Віцебск.

**Ігар СІДАРУК**

●

Горад. Вуліца. Пераход.
Веліч гмахаў. Затхласць скляпенняў.
Абыходзіць маўкліва народ
Жабрака, што стаіць на каленях.

Побач мыліцы... Медзякі
Глуха звякаюць па газеце.
«Дзякуй вам, мае дочкі, сынкі,
Людзі добрыя ёсць шчэ на свеце».

«Людзі добрыя»! Бы прысуд,
Той бязгучны голас старога.
За рэкламным шчытом «Транссельбуд»—
Твар усімі забытага Бога.

г. Кобрын.

**Юры КАРЭЙВА**

●

...І паўстаюць перад вачыма
З крыжоў маіх зямных дарог
Надзея вечная — Айчына
І найсвятая вера — БОГ.

Ралля,
Не дай нам задыхнуцца!
Зямля,
Дапамажы ўзысці:
Глянь,
Жылы рвуцца,
Скібы гнуцца... —
Пусці да сонца нас,
Пусці!..
Мы — зерне,
Мы магутным плёнам
На роднай глебе
Прагнем стаць:
З яе паўстанем —
Больш праклёнам
Ніякім будзе не дастаць.
Насустрач чорным зграям хіжым
Усе мы выйдзем як адзін!
Вось толькі б выйсці,
Толькі б — выжыць,
А там, нарэшце, —
Паглядзім!..

г. Ліда.

**Мікола КАСЦЮКЕВІЧ**

●

Спазнаўшы гаротнага свету
Адзіна-спрадвечны боль,
Душа не канае ў паэта,
Бо ёю валодае Бог.
Скуголіць яна і сівее,
Бы вецер між стромкіх хваін...
Назад паглядзі — пасталееш
Яшчэ на адзін успамін...

г. Мінск.

**Юры ГУМЯНЮК**

●

Акрываўлены крыж пацалую
І ўваскрэсну, як некалі, зноў.
Сто анёлаў на ноч намалюю,
Буду славіць Езусаву кроў.

Як заўсёды, паду на калені
І заплачу, малое дзіця.
Праз вякі прыйдуць зноў пакаленні,
Каб адкрыць свае душы, як я.

Голас мой узнясецца да неба,
Каб адтуль прагучаць на ўвесь свет.
Больш нічога ў жыцці мне не трэба,
Дзякуй Богу, шчаслівы паэт!

г. Гродна.

**Уладзімір ДУКТАЎ**

# ПРАЎДЗІКАЎ

*АПАВЯДАННЕ*

КАЛІ ў маладыя гады адарвешся ад дому, міжволі пачынаеш сумаваць па родных мясцінах, па ўсіх знаёмых людзях. Каб супакоіцца, пачынаеш пісаць лісты. Бацькам, сёстрам, цёткам і дзядзькам, дзяўчатам...

Зведаў пачуццё суму і я. На першым годзе службы. Як і ўсе, нямала напісаў лістоў. Нават і чалавеку, Праўдзікаву, якога зусім мала ведаў, але які вельмі часта мне ўспамінаўся...

...У абласную бальніцу мяне паслала прызыўная камісія ваенкамата. Раней я хварэў на грып, дык урачы ўчулі ў маім сэрцы падазроны шум.

Мае суседзі па палаце спачатку спачувалі, а потым, уведаўшы, што я вучуся ў будаўнічым прафтэхвучылішчы, пачалі кпіць:

— Дарэмна спадзяешся адкруціцца, з тваёй спецыяльнасцю — толькі дарога ў будбат! Так што, хлопча, не марнуй час, усё роўна рыдлёўкі альбо малатка не абмінеш.

Сказаць шчыра, я не адмаўляўся ісці ў армію, бо ў нашай сям'і ўсе служылі — бацька, мае старэйшыя браты,— але мне не зусім хацелася трапляць якраз у будаўнічы батальён. Я, як і іншыя, лічыў: сюды бяруць найперш не зусім здаровых ды ўдалых. Малады, я гарачыўся, апраўдваўся, што не хітрую, што зусім здаровы, толькі вось урачы чагосьці прычапіліся. Але чым болей я даказваў сваё, тым дружней бывалыя мужчыны стаялі на сваім. Маўляў, сам твой лёс за тое. каб ты служыў у будбаце!

Не ведаю, колькі яшчэ жартавалі б, пасміхоўваліся з мяне, каб не з'явіўся ў палаце яшчэ адзін хворы. Малады, на гадоў тры старэйшы за мяне, высокі і тонкі рыжаваты хлопец. Канечне, усе адразу скіравалі позіркі на новага чалавека.

Ведаючы, якія ў нашай палаце гаваркія ды бойкія, да нас зайшоў сам загадчык тэрапеўтычнага аддзялення і перасцярог, каб не чапляліся да навічка: ён слабы і яму трэба акрыяць. Хворыя паслухаліся, абыходзілі таго, але — цікаўныя — пайшлі да медсястры і ад яе ўведалі, што іхняга новага суседа завуць Васілём, што ён студэнт будтэхнікума, а сюды, у бальніцу трапіў з-за двухбаковага запалення лёгкіх.

Гэты Васіль першыя дні ляжаў ціха, мала падымаўся і ні з кім не загаворваў, а потым, набіраючыся моцы. пачаў падымацца часцей і чытаць кнігі, што прынеслі яму аднакурснікі. Гаварыць яму, мусіць, было цяжкавата, дык ён па-ранейшаму маўчаў, толькі, калі мужчыны расказвалі штосьці цікавае, адкладваў кнігу і ўважліва слухаў альбо спрабаваў смяяцца

**Іван СЫЧЫК**

# ЗА БРАМАЙ МАЎЧАННЯ

*АПАВЯДАННЕ*

1

— ДЫК добра зарабіў? — запытаў чарнявы Арцём, седзячы наперадзе і, здаецца, зусім лёгка веслуючы.

— Добра, — адказаў Прохар, лежачы на сене на дне лодкі і паўз аднавяскоўца прагна пазіраючы ўдалечыню: воддаль, за цьмянай і трошкі падружоўленай гладдзю вячэрняга возера, за пясчаным берагам чакала яго яшчэ сцішаная пасля дзённай спякоты родная вёска. У ёй ён ужо не быў паўгода.

Прохар намагаўся быць спакойным, нават важным перад сваім даўнім сябруком, але ўсё ж яму было нялёгка ўтаймаваць сваё, як кажуць, «гарачае» сэрца: у вёсцы чакалі яго хата, Аксана з сынам.

— Ну, а што тут у вас чуваць?

— Мала чаго новага, — прамовіў Арцём і чамусьці адвёў вочы, пачаў веславаць шпарчэй.

— Мая не ўзяла сабе за гэты час прымака?

— Чакае, — не пазіраючы ў вочы, сказаў Арцём. — Здаецца, ужо не рада, што адпусціла цябе надоўга па вялікія грошы...

Прохар усцешыўся, што Аксана сумуе па ім. Ён змаўчаў, апусціў галаву і, пазіраючы ўжо на празрыста-зеленаватую ваду ўзбоч лодкі, намагаўся ўявіць Аксану. Нейкае дзіва, зусім не помніў яе тую, якой пакідаў паўгода, а нібы бачыў тую, якую ўгледзеў у вясковым клубе гады чатыры таму. Тады ён вярнуўся з войска, адлежваўся ў бацькоў, збіраючыся падацца на працу ў горад. Калі служыў, перапісваўся з аднакласніцай, з Кацярынай, якая цяпер працавала паштаркай. Калі ён з ёю прыйшоў аднаго вечара ў клуб, правёў позіркам па моладзі, адразу зразумеў: не, Кацярыну не кахае. З дзявочага гаразнага гурту яму тут жа кінулася ў вочы танклявае, у белай сукенцы і з яшчэ невысокімі, але пругкімі грудзьмі смуглявае дзяўчо. Ён спачатку не мог разабрацца, хто гэта, толькі праз нейкі час здагадаўся: ды гэта ж Сцяпанава дачка, Аксана. Яна, здаецца, хадзіла ў восьмы клас, калі ён адыходзіў служыць. А цяпер глядзі, прынцэса! Яна ж, адчуўшы яго позірк, неяк адразу збянтэжылася, пачырванела і пачала адводзіць вочы.

«Прохарка, — прызнавалася пазней, — як убачыла цябе, высокага, стройнага ў вайсковай форме, дык адразу ўпадабала... Але аж сэрца забалела: ты не будзеш мой, а Кацярынін...»

Карацей, аднойчы ён мусіў папрасіць выбачэння ў Кацярыны і адысці ад яе. Тая плакала, папікала яго, абы-што гаварыла пра Аксану, доўга нудзілася, але пазней, пасля яго вяселля, нібы паспакайнела і неяк хутка выйшла замуж за іхняга аднакласніка, во гэтага рослага і ціхага Арцёма.

— Маеш на машыну? — зноў праз доўгі перапынак падаў голас сябрук.

— Маю.

— Ну то і добра, — прамовіў той, здаецца, па-ранейшаму адносячыся да яго з павагай. — Так што твая Аксана не дарма тут марнела без цябе.

— Давай налета паедзем на шабашку разам. Заробім і табе на «Жыгулі».

— Паглядзім, — буркнуў Арцём.

— Не адкладай. Бо, кажуць, машыны будуць хутка даражэйшыя.

Паволі лодка ткнулася да берага. Арцём падняўся, пералез цераз лодку і падцягнуў яе далей на мель і пачаў навязваць ланцужком да тоўстага жалезнага колца ў тоўстым дубовым слупку. Прохар лёгка скокнуў ужо на сухі жоўты пясок.

— Ну, дзякуй, Арцём. Заходзь увечар, аддзячу, — падкінуў на плечуку руказак. — Каньяком пачастую.

— А ты спяшаешся?

— Хіба не ведаеш, чаго спяшаюцца да жонкі пасля доўгай ростані?

— Яе яшчэ не будзе дома. Возьмем па чарцы-другой маёй — тады пойдзеш.

Прохар згадзіўся. Неўзабаве яны, курачы, падышлі ўжо да новага цаглянага Прохаравага дома з новым плотам, з гародчыкам, дзе буялі белыя і бурачковага колеру півоні. У двары ўбачылі гаспадыню, Кацярыну. Босую, у выцвілай кароткай сукенцы, з аголенымі поўнымі рукамі. Тая, нарадзіўшы двое дзяцей, не толькі паправілася, але і стала мажная.

— Госць... — Молада зачырванелася яна і, здаецца, не ведала, дзе дзець абярэмак травы з рук. Потым апусціла яго каля плоту, што адгароджваў грады ад двара. — Змяніўся...

— Пахарашэў? — усміхнуўся ён.

— Пасталеў. Мужчына ўжо.

«Здаецца, усё яшчэ кахае...» — усцешыўся Прохар, але не збянтэжыўся і не засаромеўся, наадварот, змусіў страціць раўнавагу былую сваю сяброўку. Арцём, здаецца, адчуваў, што робіцца зараз у жончынай душы, але не раўнаваў, вычакаў хвіліну і загадаў:

— Збяры нам чаго на стол.

— Добра-добра, — замітусілася тая.

Неўзабаве ўжо стол у лепшай хаце быў засланы белым абрусам, а на ім вабілі вока талеркі з салёнымі гуркамі, з тонка нарэзанай паляндвіцай, з ружаватым салам. Арцём паставіў паўтарачку самагонкі.

— Давайце паспрабуем маё, — сказаў Прохар і дастаў з руказака пляшку каньяку.

— Адразу відаць: багаты! — пазайздросціла Кацярына, якая незаўважна паспела пераапрануцца ў чорную спадніцу і белую блузку, абуцца ў белыя басаножкі і нават прычасацца. Цяпер яна аж спадабалася Прохару, і ён, бачачы, што гаспадар не завіхаецца брацца за яго пляшку, сам адкаркаваў, наліў у чаркі каньяку.

— Давайце за мір і за перабудову! — пажартаваў.

— За здароўе, — прамовіў Арцём.

— За ўсіх нас, — усміхнулася Кацярына і тут жа нараўне з імі кульнула з чаркі.

— Нічога ў ім смачнага, — зморшчыўся гаспадар, чапляючы відэльцам скрылік агурка. — Мне свая лепшая.

— Нічога ты не бачыў, дык не разбіраешся, — шпільнула яго жонка. — Людзі, бачыш, разбіраюцца.

Арцём моўчкі зажаваў, а Прохар міжволі заглядзеўся на Кацярыну. Можа, і ад таго, што засумаваў без сваёй Аксаны, што хацелася хатняй утульнасці, адпаведнага, трошкі гуллівага настрою.

— Як у нас казалі, дзевятнаццаць секунд прайшло ўжо, дык трэба паўтарыць, — павёў рэй Прохар. — А гэта азначае, што ў нас высокая алкагольная культура...

Усе зразумелі, што гэтых слоў Прохар нахапаўся там, на шабашцы, Арцём здзіўлена падняў на яго вочы, а Кацярына пазірала з захапленнем: вось гэта мужчына!

Калі яшчэ выпілі, Прохар пахваліў яе:

— Паправілася ты, Каця!

— А твая пахудзела...

— Сумавала без мяне?

— Ага, сумавала...—Адказала тая, але з нейкім выклікам. У гэтую ж хвіліну Арцём стрэльнуў па жонцы незадаволеным позіркам — маўляў, прыкусі, дурніца, язык. — Плачаплача...

Пакуль Арцём апаражняў пляшку каньяку, Прохар пільна пазіраў у Кацярыніны вочы: што — яна нешта недагаворвае? Адчуў: устрапянулася сэрца, пыхнула кроў у скроні. Недарэмна ж кажуць, што ён як порах: толькі паднясі запаленую запалку — адразу пых!

— Што-небудзь тут не тое? — спахмурнеў ён.

— Нічога ніякага, — умяшаўся Арцём. — Давай дап'ём тваё хвалёнае пітво. Каб хутка на тваёй машыне пакаталіся.

— Людзі, не хітруйце! — запатрабаваў ён. Трымаў чарку ў руцэ, і

разам з усімі. Усміхаўся, нават, здаецца, ззяў вачыма, калі аднаго дня жартуны зноў успомнілі пра маю долю служыць у будбаце. Калі я старэйшым дароўваў, як мог, адбіваўся ад іхніх пацешак, дык на Васіля пакрыўдзіўся. Нават зазлаваў на яго. Былі хвіліны, калі мне да прыкрасці не падабаліся яго адтапыраныя вушы, густое рабаціннне на твары, шырокі ў ноздрах нос — здавалася, ён не толькі непрыгожы, але зламысны, мала што ў яго такое добрае прозвішча — Праўдзікаў.

Васіль, можа, душой адчуў маю непрыязь да яго — мае пахмурныя позіркі, адрывістыя непрыхільныя словы ў адказ, адным словам, маю адчужанасць, якую цяжка схаваць і лёгка заўважыць. Аднойчы ён падышоў, сеў на край майго ложка і нечакана ашаламіў мяне:

— А, ведаеш, я служыў у будбаце.

Веселуны загарэзавалі:

— Сябры!

— Аднапалчане!

— Прызнаюся,— не зважаючы на жарты, сказаў Праўдзікаў, і я адчуў, што ён гадамі яшчэ малады, але сталы ўжо чалавек,— я таксама не хацеў ісці служыць у будбат. Адчуваў нейкі мужчынскі сорам. Думаў: ну, хіба там служаць здаровыя і спраўныя? Хіба там сапраўдная служба? Не супакоіўся і тады, калі апрануў вайсковую форму. Сапраўды, нямала было сярод нас хворых, няўдалых, мала было армейскай службы і шмат усякай чорнай работы. Перажываў, ныў, часамі ледзь не плакаў. А потым пачаў пакрыху браць сябе ў рукі: хто я? Хлюпік альбо мужчына? Калі мне трэба быць якраз тут, будаваць дарогу альбо мост, рыць канаву ці класці рэйкі, дык трэба. Нават больш — гэта мой воінскі абавязак...

— Ого!— ужо з Праўдзікава пакпіў самы ядавіты гаварун, чарнавалосы таўстун Пліска.— Ідэйны стаў!

— Ідэйным ці не ідэйным—не ведаю...— Не збянтэжыўся Праўдзікаў.— Але кожны рана-позна павінен паставіць перад сабой мэту, супакоіцца і настроіцца на работу... І, прызнаюся, хутка мне стала лягчэй, я перастаў лічыць, што праца — прымус, нялюбая справа, я пачаў лічыць яе, кажу, абавязкам... Мне было прыемна, калі бачыў наладжаную дарогу ці пабудаваны дом: гэта ж не гульня, не пустое, а патрэбнае для людзей. Падругое, грошай крыху зарабіў, цяпер вось магу вучыцца і ў маці не прасіць на пражытак ці адзенне і абутак...

Слухаючы гэта, бачачы натхнёны Васілёў твар, я міжволі пачаў лагаднець. Я здзіўляўся: у хлопца вушы як вушы, і вяснушкі, і шыракаваты ўнізе нос дарэчы — як кажуць, мужчына як мужчына. Васіль жа, бачачы, што я пазіраю на яго іншымі, можа, нават захопленымі, вачыма, нечакана разгубіўся і ляпнуў мне па плячы:

— Не бойся. Не прападзеш. Абы характар меў, сілу ўтаймаваць самога сябе...

Загартаваны Васіль на вачах перамагаў сваю хваробу. Праз тыдзень ён ужо хадзіў разам з іншымі ў сталоўку і ў фае да тэлевізара. Яго даволі часта наведвалі сябры-студэнты (а сярод іх была і блакітнавокая Ганначка, на якую ён пазіраў вельмі ж закахана), прыносілі кнігі, ласункі, расказвалі яму пра тэхнікумаўскія навіны. Слухаючы іх, Васіль жвавеў, на яго худаватых шчоках з'яўлялася чырвань, а па вуснах блукала лагодная ўсмешка.

Калі госці адыходзілі, мы з Васілём бавілі час удвух. Ходзячы па калідоры, ці запыніўшыся каля акна, ён расказваў мне пра сябе. Я даведаўся, што ў яго няма бацькі (загінуў у аварыі), маці працуе даяркай на ферме, жыве з меншым сынам.

«Маме не даю весткі, што я тут,— гаварыў ён. — Яна захоча прыехаць, для яе гэта вялікі клопат... Вылечуся — сам пад'еду, дроў ёй прывязу...»

Але выйшла не па ім: ён выпадкова трапіў у бальніцы на вочы землякам. Адзін з іх неўзабаве выпісаўся, вярнуўся ў вёску і расказаў маці пра яго.

Тая адразу ж прыехала ў бальніцу. Хоць пасярод тыдня наведвальнікаў у палаты да хворых не пускалі, але для жанчыны з далёкай вёскі зрабілі палёгку, і вось яна—невысокая, у валёнках, у доўгай цёмнай спадніцы і сіняй кофце, у хустцы, з-пад якой відаць былі раннія сівыя валасы, трымаючы на каленях гаспадарчую сумку, — сядзела на табурэце каля сынавага ложка. Ён, канечне, не чакаў маці, быў узрушаны.

— Мама, — дакараў, — ну, чаго ты прыехала?

— Як жа я магла не прыехаць, сынок? — адказала яна. — Вось табе каўбаскі свежанькай, сальца прасоленага прывязла. Еш, набірай сілу. Тут жа харч казённы...

— Ды кормяць няблага, мама.

— Добра-добра, — гаварыла маладая, можа, яшчэ толькі пад сорак гадоў, удава, выкладвала са сваёй сумкі і клала ў сынаву тумбачку вясковыя прысмакі. — Але з'еш і свайго. Людзей пачастуй. Я ж ляжала ў бальніцы, ведаю, як часамі хочацца якраз свайго...

Васіль бурчэў на маці, але лагодна. Як сталы ўжо мужчына.

— Скажу цяпер, а то яшчэ забудуся, — пераняла размову ў іншую плынь жанчына. — Калі пачуў, што еду ў горад, зайшоў да нас старшыня. Просіць, сынок, каб ты пасля вучобы вярнуўся дадому, стаў у нас прарабам. Хоча многа новых дамоў паставіць, даць іх маладым сем'ям.

Васіль дасюль слухаў маці седзячы на ложку. Цяпер жа лёг на спіну, падклаў пад галаву рукі і зірнуў у столь.

— Цяпер дык спатрэбіўся я яму... — Прамовіў. — А некалі, колькі ні прасіў яго, не даў накіравання ў тэхнікум.

Яго маці, як бачна было, захвалявалася: здаецца, ёй дужа даспадобы была старшынёва просьба.

— Кажа: першы дом вам на сям'ю дам, — сказала яна. — Ваша ж хата ўжо старая... І, праўда, хата наша струхлелая ўжо. Нябожчык хацеў новую ставіць, але не паспеў...

Васіль змаўчаў. Я, здаецца, зразумеў і яго гэтае маўчанне, і яго задуменны позірк у столь: ён адчувае, што яго абранніца, модная і прыгожая Ганначка, можа не паехаць з ім у вёску, зажадаць застацца ў горадзе.

— Дык што мне сказаць, сынок, Прышчэпу? — асцярожна запытала жанчына.

— Я падумаю, мама.

— Канечне, падумай, Васілёк, — замітусілася маці. — Ты ж у нас гаспадар...

Неўзабаве яна заспяшалася, каб не спазніцца на аўтобус, цёпла і ласкава развіталася з намі; Васіль яе праводзіў. Потым ён доўга стаяў каля акна, пазіраў на ўжо зімовы двор, на маці, што недзе адыходзіла, азіралася і махала яму рукой. Цяпер я не падыходзіў да яго — трэба было, каб ён пабыў адзін, падумаў пра тое, пра што пачуў, які яму належыць зрабіць выбар.

Пакрыху мужчын пачалі выпісваць з палаты. Усе яны па-сяброўску развітваліся з Праўдзікавым, падбадзёрвалі мяне:

— Не апускай нос, не прападзеш і ў будбаце...

...Ужо сапраўды цягнучы лямку ў будбаце, я ўведаў: Праўдзікаў пасля вучобы вярнуўся ў родную вёску. Клікаў з сабой Ганначку, але яна не паслухала, змушала яго застацца ў горадзе, неўзабаве выскачыла замуж за іншага.

Я палічыў патрэбным напісаць з арміі Праўдзікаву ліст, а цяпер вось расказаць пра яго...

г. Магілёў.

---

яна, чарка, дробна трымцела. — Я ж не дзіця, адчуваю: штосьці тут не так...

— Усё добра, — зноў паспяшаўся супакоіць яго Арцём.

— Каця, ты скажы! Чэсна!

— Нічога я не ведаю, — апусціла галаву тая. — Але людзі кажуць...

— Не перабірай плёткі! — накінуўся на жонку Арцём. Яго гэта ўзрушэнне яшчэ болей насцярожыла Прохара.

— Можа, і плёткі гэта, Прохарка... — Прамовіла Кацярына, пакручваючы на стале напоўненую чарку.

— Якія? Гавары! Я павінен усё ведаць.

— Тут у нас працуюць электрыкі, мяняюць лінію. Дык вось кажуць, што з адным з іх у Аксаны любоў...

— Мана! — махнуў рукой Арцём. — Уся любоў у тым, што ён з лесу машыну дроў прывёз... Не зважай, Прохар. Бяры, выпі і выкінь усё дурное з галавы.

Ён моўчкі, намагаючыся суцішыць дрыготкую руку, падняў чарку, глытнуў і палез у кішэню па цыгарэту.

«Няўжо Аксана здрадзіла? За нейкае паўгода? Я ж мог за гэты час нават прыжаніцца, але не пасмеў...»

**2**

Дадому Прохар прыйшоў, калі з Арцёмам выпіў яшчэ паўтарачку моцнай самагонкі (Кацярына пакінула іх, падалася ўхаджацца), калі паватнелі ногі ды памутнела ў галаве. Гэты стан яшчэ болей паддаў крыўды і злосці.

Аксана была ў хаце адна, чысціла маладую бульбу. Убачыла яго і не то здзівілася, не то спалохалася. Хоць быў нецвярозы, з болем убачыў: цяпер яна не такая тоненькая, як была да замужжа, але не папаўнела, як паправіліся некаторыя жанчыны пасля родаў, стройная. Спрытна зачасаная галоўка, высокая шыя і аголеныя вяршкі тугіх грудзей у выразе блузкі літаральна паласнулі яму па сэрцы: гэтае яе хараство не толькі берaглося для яго, а было і для некага іншага, чужога...

— Прохарка! — усклікнула яна, падняла, паглядзела на свае мокрыя і бруднаватыя ад шалупіння рукі, а пасля хуценька выцерла іх аб фартушок. — Які ты п'яненькі!

Памкнулася да яго, каб зняць з плечука рукзак, распрануць яго і пасадзіць за стол альбо нават завесці на ложак.

— Дзе сын? — астудзіў яе парыў.

— У мамы.

— Чаму — у мамы? Замінае?

Яна затрымалася, неяк мігам сцялася і спахмурнела — зразумела, што перш, чым прыйсці дадому, ён некуды заходзіў і там пачуў пра тое, што гавораць у вёсцы. Яе раптоўная бледнасць яшчэ болей упрыгожыла яе.

— Пачуў плётку?

— Пачуў.

— Верыш?

— А ты? За што табе дровы прывезлі? За так?

— Прохар, калі ты будзеш так гаварыць са мной, я пайду з хаты, — падняла галаву, зірнула горда.

— Да яго?

— Да яго!

— Сволач! Ды я цябе!... — Ён, не помнячы нічога, разлютаваны, кінуўся ў другі пакой, схапіў за шафай зачахленую стрэльбу, на ходу дастаў яе з чахла. — Застрэлю!

Падняў, навёў на яе рулю:

— Прызнавайся! Кажы ўсю праўду!

— Што ж мне гаварыць, калі ты ўжо ўсё «ведаеш»!

— Дык праўда?

— «Праўда»! — з выклікам адказала яна. Як і ён, была не з ціхіх ды спакойных.

— Я... Я... — Захліпаў ён, адвёў дужку, націснуў на спускавы кручок і... раптоўна з рулі выскачыў агонь, бабахнуў стрэл. Адкуль там, у ствале, аказаўся патрон?

Аксана спачатку ўскінула рукі, нібы хацела засланіцца імі ад агню, ад стрэлу, ад болю, што пранізваў яе, а пасля хутка прыклала рукі да жывата і, зусім бялеючы, пачала апускацца...

— Прохарка, саколік мой, што ж ты нарабіў?

Спачатку ён нібы скамянеў, не мог нават паварушыцца, а потым шпурнуў убок стрэльбу, кінуўся да яе і адхапіў ад яе жывата яе рукі: яны былі ў крыві...

**3**

Раніцай звар'яцелага ад гора, бязвольнага Прохара міліцэйская машына павезла ў раён. Сын яго застаўся ў бабулі, змалку сіратою...

**4**

Аксана ляжала ў труне маладая і прыгожая ў сваім новым, яшчэ ні разу не апрананым адзенні. Здаецца, яна прыснула на нейкую хвіліну, вось-вось прачнецца. Праўда, была ненатуральна белая.

Усе яе таямніцы засталіся за брамай гордага маўчання.

---

Васіль АНДРЫЕЎСКІ

## ПАЛЕСКІ КРАЙ

Вясёлы і сумны палескі мой край,
Ты сэрцу і родны і блізкі.
Самотна задумны дубовы твой гай,
І гнёзды маўчаць, і калыскі.

Маўчаць аксамітныя ў росах лугі
І Прыпяці жоўтыя плёсы,
І сумна бягуць і бягуць у стагі
Зялёныя стужкі пракосаў.

Ды верыцца: вечна палеткам квітнець,
Матулям дзяцей сваіх гушкаць.
Вось толькі баліць — сталі рэчкі мялець,
І гнёздаў цураюцца птушкі.

г. Мазыр.

Ігар ПРАКАПОВІЧ

●

Свечкі гараць у храме.
Там людзі прыйшлі да святла.
А я са сваёю свечкай
іду ў змрок.

Дрыжыць і трапечацца ў далонях
жывы агеньчык.
Чыстыя водбліскі
парушаюць цемру
і даюць магчымасць бачыць.

Я рады, што ёсць людзі,
якія ўвайшлі ў храм.
Я скрушны, бо многа людзей
яшчэ блукае ў цемры.
Вось таму я выйшаў з храма,
каб сваёю свечкай
высвеціць змрок...

г. Паставы.

Уладзімір ЦІШУРОЎ

## У АПУСЦЕЛАЙ ВЁСЦЫ

Ахае ўночы бярвенне,
чуюць сцены старэчы стогн.
Ноч цягучая і здранцвенне
бяруць хату старую ў палон.

На світанні у рэдкі змрок
выйдзе з хаты старая жанчына,
пераважа спіну хусцінай,
па двары зробіць першы крок.

Рэдкі голас у вёсцы і пешы.
Вецер лашчыцца сабачанём.
А на гэта глядзець нават грэшна:
За плугам ідзе жанчына,
а плуг — за канём.

Недзе ў горадзе сын-асілак,
і стаў рэдкім дачушын прыход.
Толькі ж дзе узяць тае сілы,
каб хоць як абрабіць агарод.
І глядзяць саслязела вокны,
нібы вочы старых жанчын.
Крэкчуць ноччу старыя кроквы,
быццам голас памерлых мужчын.

г. Круглае.

Вера БАРОДЗІЧ

●

Кажуць, птушка ў клетцы
не пяе,
Сэрца птушкі, кажуць,
зацугляна...
Проста мы не чуем спеў яе —
Нам глухімі быць наканавана.

А яна пяе, усё ж пяе
Шчыра і бездапаможна глуха...
Многіх нам пачуццяў не стае,
Каб птушыны голас
сэрцам слухаць.

г. Лепель.

Міхась МІРАНОВІЧ

## ЖАРТЫ

### Слава

У славы заўсёды
Законы свае —
Ні на ранг, ні на чын
Не зважае.
Але часам яна
Чалавека псуе:
Ганарліўцаў — свая,
А зайздросным — чужая.

### Чужыя парады

Парады слухаць
Міла,
Ды, людцы
Дарагія!
Замест сваіх
Памылак
Пачнеш рабіць
Чужыя.

### Сямейны тэатр

Сямейны тэатр
Назіраючы ўволю,
Ты зможаш урэшце
Дайсці да высноў:
Дзе жонка выконвае
Першую ролю,
Там мужу адводзіцца
Роля без слоў.

### Яшчэ горш

— З усіх гісторый
Ні адна, здаецца,
Не мае больш
Сумнейшага канца,
Калі разумны ў дурнях
Застаецца...
— Горш, калі з дурня
робіць мудраца.

г. Віцебск.

**ДУМКА ЧЫТАЧА**

# УХВАЛЬНАЕ СЛОВА — ПРЫСТАСАВАНСТВУ?..

Наста Пабягунская: Я з пэўных крыніц ведаю, што беларусы падатлівы народ.
Янка КУПАЛА. «Тутэйшыя».

Магчыма, у мяне зусім няма пачуцця гумару.

Дый жа ёсць рэчы, пра якія гаварыць **толькі** з гумарам нельга. Радзіма, нацыянальная самасвядомасць, гістарычная спадчына, народныя традыцыі, звычаі — гэта спрадвеку было святым. І нават у наш бурны супярэчлівы час «стрэсаў і страсцей», калі, здаецца, усё можна і ўсё дазволена, размова пра гэта не можа адбывацца, калі праз гумар і смех не чутно крыўды і болю...

Пра гэта думала, глядзеўшы спектакль тэатра імя Янкі Купалы «Тутэйшыя» па аднайменнай Купалавай п'есе. А яшчэ прыгадвала сябра, які перакананы:

— Вам, белорусам, только и удалось выжить потому, что всем, кто приходил на вашу землю, вы кланялись да угождали. Это ваша национальная черта....

Мы пастаянна спрачаемся, бо не магу пагадзіцца, што наш народ — бесхрыбетны, пазбаўлены пачуцця ўласнай годнасці, гатовы падлашчвацца ды паддобрывацца. Ды калі сябар паглядзіць «Тутэйшых», усе мае аргументы пацерпяць фіяска...

...На спектакль я ішла, падрыхтаваная захапляцца: знаёмыя, што былі на прэм'еры, не шкадавалі эпітэтаў у найвышэйшай ступені, клічнікаў, уздыханняў-вохканняў. І сапраўды, захапляцца ёсць чым. Цудоўныя дэкарацыі (мастак Б. Герлаван), тонка прадуманая музычная афарбоўка (кампазітар У. Кур'ян), шэраг цікавых акторскіх работ (а галоўны герой Зносак у выкананні В. Манаева — гэта, паверце, трэба бачыць!). Дый сама пастаноўка спектакля Мікалаем Пінігіным зроблена па-майстэрску, тут шмат рэжысёрскіх прыдумак, здаецца, знойдзена ўдалая лубачная, крыху гратэскная форма ўвасаблення Купалавай п'есы (трагікамічныя сцэны — так вызначана ў праграмцы).

Атрымалася яркае, захапляючае відовішча — чым, пагодзімся, не заўсёды радуе сучасны тэатр.

Гэта што да формы. Але ж — прабачце банальнасць — мы ідзём у тэатр не толькі па яркае відовішча. Таму давайце пакінем убаку ўсе вонкавыя знаходкі і пагаворым **пра канцэптуальную трактоўку спектакля.**

Калежскі рэгістратар Мікіта Зносак — менавіта той тып беларуса, пра якога любіць разважаць мой сябрук. Гэта, гаворачы па-сучаснаму, палітычная прастытутка: які б акупант ні ступаў па беларускай зямлі, Зносак заўсёды «мяняе скуру», стараючыся падладзіцца пад кожную новую ўладу. Мікіту супрацьпастаўляецца Янка Здольнік — так бы мовіць, «свядомы беларус». Ён шчыра робіць сваю настаўніцкую справу, а да ўсіх захопнікаў ставіцца не інакш як да акупантаў. Гэтыя персанажы, відаць, задуманы Купалам як разнаполюсавыя, праз іх увасабляецца галоўная аўтарская думка. Канфлікт між Мікітам і Янкам утвараецца на фоне нямецкай, польскай акупацый, на фоне ўсталявання савецкай улады. Побач — шмат іншых дзейных асоб, якія дапамагаюць «ствараць» гэтых «каралёў».

У канцы спектакля гінуць і праведнікі, і грэшнікі (празрысты намёк на Курапаты), але не гіне надзея на адраджэнне: разам з дзіцяняткавай калыскай узнімаецца ўгору бел-чырвона-белае палотнішча — мабыць, як сімвал чысціні і цнатлівасці, шматпакутнасці нашага народа.

Толькі вось, зыходзячы з трактоўкі галоўных дзейных асоб, незразумелым застаецца, на **якое іменна** адраджэнне спадзяецца тэатр, да якога адраджэння заклікае.

Адказ, здавалася б, на паверхні: гэта надзея на адраджэнне культурнага, адукаванага, «свядомага» беларуса, сімвалам якога з'яўляецца настаўнік Янка Здольнік. Але... Бог ты мой! Гэтая ж «свядомасць» пададзена ў спектаклі ледзь не як ідыятызм!

Задуманы Купалам як станоўчы герой, Здольнік у выкананні А. Лабуша ўспрымаецца *гледачом то з насмешкай*, а то і з адкрытым рогатам. Ды і як інакш можна ўспрымаць тыя правільныя словы, што актор багата «выдае на-гара» з зусім незразумелым бязмежным патэтызмам, які часам даходзіць амаль да істэрыкі. Колькі тут нацягнутых, ненатуральных, штучных інтанацый!

Хіба гэта той тып беларуса, з якім звязваюцца надзеі на адраджэнне?

Хіба гэта той адукаваны культурны беларус, якога выпісаў Янка Купала?..

Спецыяльна пайшла ў Ленінскую бібліятэку, для большай дакладнасці ўзяла часопіс «Полымя» за 1924 год, дзе ўпершыню друкаваліся «Тутэйшыя», — каб пераканацца (і супакоіць сябе), што ў Купалы Янка Здольнік не такі. І сапраўды. Аўтар вызначыў п'есу як трагічна-смяшлівыя сцэны з менскага нядаўняга жыцця, але фігура Здольніка тут

**Спектакль «Тутэйшыя», безумоўна, стаўся неадназначнай падзеяй тэатральнага і грамадскага жыцця Беларусі. Падаўшы ўжо на сваіх старонках непасрэдныя пасляпрэм'ерныя ўражанні крытыкаў Б. Бур'яна і А. Сідарэвіча, рэдакцыя палічыла неабходным падаць і іншыя меркаванні пра спектакль. Да думкі чытача мы б хацелі далучыць меркаванні літаратурных і тэатральных крытыкаў, даследчыкаў, пісьменнікаў, мастака. Далучыць, а не супрацьпаставіць допісу Т. Падаляк.**

**Ці ж завершыць гэтая публікацыя гаворку пра Купалавых «Тутэйшых» і пра рэжысёрскае трактаванне спектакля М. Пінігіным? З цягам часу спектр меркаванняў, несумненна, пашырыцца. Аддзел тэатра, кіно і тэлебачання гатовы паспрыяць «высвятленню ісціны», але просіць чытачоў згадаць банальную думку пра тое, што адзінай мастацкай ісціны няма: іх столькі, колькі мастакоў. І, відавочна, гледачоў, — гэта, прынамсі, даводзіць сённяшняя падборка іхніх меркаванняў. Мы наўмысна не вызначалі, так бы мовіць, прафесійную прыналежнасць удзельнікаў падборкі (маючы на ўвазе, што тэатральныя крытыкі таксама найперш гледачы), бо ў нашым выпадку прыналежнасць не мае вялікага значэння. Спектакль М. Пінігіна сваёй адметнай таленавітасцю даў магчымасць ці не кожнаму з нас угледзець на сцэне штосьці сваё, асабістае, і цалкам верагодна, што кожны з нас, як піша П. Васючэнка, сумуе па сваіх «Тутэйшых»...**

# «СУМУЮ ПА СВАІХ «ТУТЭЙШЫХ»

**Адам МАЛЬДЗІС.** Яшчэ ў 1982 годзе, на адкрыцці Дзён беларускай літаратуры ў Польшчы, вядомы празаік Ежы Путрамант гаварыў пра тое, што Беларусь прайшла ўжо шлях «ад тутэйшосьці да народавосьці» — ад тутэйшасці да нацыянальнасці. Аднак яшчэ сёння, калі адбыліся сапраўды вялікія змены ў нашай нацыянальнай свядомасці, словы польскага сябра, цяпер ужо нябожчыка, гучаць не як канстатацыя факта, а як аванс, добрае пажаданне на будучыню. Бо «тутэйшасць» жыве (пра гэта добра пісаў у «ЛіМе» В. Жыбуль). І, мусіць, цяпер наступае яе апагей, бо на магутную хвалю русіфікаванай «тутэйшасці» накладваецца імклівая хваля паланізаванай «тутэйшасці»: дастаткова пачытаць, што пішуць сёння «ўсходнія» і «заходнія» вучоныя, так яскрава паказаныя Купалам. Для іх нічога не значыць, што прыняты і нават уступіў у дзеянне закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Абвесткі пра спектакль «Тутэйшыя» патанаюць на рэкламных стэндах у моры абвестак рускамоўных. Пра выкладанне польскай мовы на Гродзеншчыне праяўляюцца куды больш чулыя клопаты, чым пра выкладанне мовы беларускай. Ды што там абвесткі і што вучні... 7 лістапада мінулага года на афіцыйным мітынгу ў Мінску з чатырох прамоўцаў на дзяржаўнай мове не выступіў ніводзін. «Недомыслие здешних» гэта ці свядомая правакацыя?! А потым яшчэ здзіўляемся, калі ўдзельнікі «альтэрнатыўнага» мітынгу таксама ідуць на «правакацыю»...

Пра ўсё гэта думалася мне, калі глядзеў у перапоўненай зале «Тутэйшых» Купалы, спектакль па п'есе, напісанай прарочa, нібы пра сённяшні дзень. Купала прадбачыў, што ўсё зноў паўторыцца: «усходнія» і «заходнія», засілле чыноўніцкага «аратарства», «свабодны гандаль» і нават крызіс з прадуктамі, з гарэлкай. І зноў беларусы стануць перад выбарам: кім быць ім — зноскамі ці здольнікамі. Уся бяда ў тым, што першых у нас занадта многа, што не разумеюць яны і не хочуць разумець трагікамічнасці сваёй пазіцыі, а другіх — занадта мала. Між тым, вяшчуе нам Купала, толькі здольнікі ў стане «зрабіць самі сябе гаспадарамі»; не будзе іх, мудрых настаўнікаў-рупліўцаў, адціснуць іх — і не будзе ў нас свайго «я», зноў станем губэрнямі ці ваяводствамі.

Пра сам жа спектакль скажу коратка: настаўлены ён выдатна. Рэжысёр Мікалай Пінігін знайшоў якраз той «батлейкава-бутафорскі» ключ да пастаноўкі, які адпавядае нашай нацыянальнай гісторыі, даў нам у канцы спектакля сімвалічны прамень надзеі. Таленавіта ігралі і В. Манаеў, і М. Захарэвіч, і У. Кін-Камінскі, і Г. Давыдзька, і... амаль усе ўдзельнікі гэтага тэатральнага свята. Няхай запозненага ў часе гадоў...

Мне падалося, што пасля спектакля, у чарзе да гардэроба, беларуская мова гучала часцей, чым перад спектаклем у чарзе да буфета (з кааператыўнай гарэлкай, але без бутэрбродаў)... Што ж, калі пасля спектакля хаця б адным зноскам стала меней, а хоць адным здольнікам — болей, дык мэта дасягнута!

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.** Успамінаю, як дваццаць гадоў таму даводзіў М. Стральцову і В. Раеўскаму, якія стварылі тэлеспектакль «Па шчасце, па сонца» па матывах дарэвалюцыйнага Купалы, што трэба прадоўжыць працу — зняць другую частку па ягоных творах перыяду 1917—1942 гг. Цяжка было тады згадзіцца з аргументацыяй сяброў, якія, штучна падзяляючы творчасць паэта на «да» і «пасля», не надавалі такой жа ўвагі надзвычай выключнаму ўнутранаму драматызму ў купалаўскіх творах «пасля», у тым ліку і ў «Тутэйшых». Пазней мы з В. Карпілавым паспрабавалі нанова прачытаць паслярэвалюцыйнага Купалу ў тэлеспектаклі «Безназоўнае». Але тады быў яшчэ толькі 1982 год...

Рэжысёр М. Пінігін сваёй цікавай пастаноўкай на купалаўскай сцэне паспрабаваў давесці, што вось, глядзіце — надышоў час і для «Тутэйшых». Але, мне здаецца, нельга ні на хвіліну забываць, ані рэжысёру, ані акцёрам пад час «пракату», «тыражу» гэтага эфектнага спектакля, што «Тутэйшыя» — п'еса і на ўсе часы, як бы ні прывязалі мы яе да нашай канкрэтна-гістарычнай беларускай сітуацыі. Яна — як «Дзядзька Ваня», як «Тры сястры» А. Чэхава. Як хацелася б убачыць генеральную рэпетыцыю «Тутэйшых» у 1926 годзе ў БДТ-1 (рэжысёр М. Папоў); спектакль тады ж назаўсёды закрылі! Як хочацца цяпер пабачыць новыя і новыя тэатральныя версіі, іншыя рэжысёрскія трактоўкі «Тутэйшых»!

У гэтай п'есе Я. Купалы найважнейшы, на маю думку, шэкспіраўскі матыў адвечнага трагізму чалавечага існавання, які ў падтэксце абрываецца глабальным пытаннем: «Людцы, што гэта будзе з намі, з народам, з нашым краем? Што?» Пытаннем, на якое няма адказу. Пытаннем, сугучным таму, якое ў славутым вершы, напісаным — я перакананы ў гэтым — з адчайнай запытальнай інтанацыяй. Прачытайце яго зноў, не зважаючы на аўтарскія (можа, рэдактарскія) знакі прыпынку: «О так... Я — пралетар(?) Яшчэ ўчора раб пакутны, сягоння я зямлі ўладар і над царамі цар магутны (? — няўжо?). Мне бацькаўшчынай цэлы свет... (? — гэтага ж быць не можа!). І таму толькі: «Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед: мне сняцца сны аб Беларусі!»

А. Лабуш, які іграе Янку Здольніка, добра перадае дынаміку развіцця персанажа, сталення яго як асобы. Але мне асабіста шкада, што пры чытанні верша «О так... Я — пралетар» знікла запытальная інтанацыя, хоць мы папярэдне і гаварылі з рэжысёрам пра гэта.

**Фелікс ЯНУШКЕВІЧ.** На маю думку, спектакля, задуманага Купалам, не адбылося. І вось з якое прычыны: роля Генрыка Мотавіча Спічыні (нягледзячы на вабнае ўвасабленне В. Філатава) не набыла важкасці ў рэжысёрскім прачытанні. Па сутнасці, Генрык Мотавіч — патаемная спружына ўсіх пераўтварэнняў і пераўвасабленняў Зносака, гэткі ідэолаг, дакладней, ваўкалака тутэйшае ідэалогіі, што «кіруе і накіроўвае» тутэйшых, перакідаючыся па дваццаць разоў на дню. Толькі «лінію» асабістае выгоды ён трымае нязменна. А ў спектаклі М. Пінігіна беларуса дзяруць-раздзіраюць... рэлігійныя канфесіі, — прынамсі, гэтую думку колькі разоў падкрэсліцьназоласцэнаграфія шматлікімі перасоўкамі макетаў і «рыштаванняў» касцёла і царквы. Дый потым... Прыкра мне са спектакля ў спектакль назіраць адны і тыя самыя акцёрскія «прыстасаванні» да роляў, нібыта ў традыцыях, але ў традыцыях акцёрскіх штампаў...

**Ала САВІЦКАЯ.** Што праўда, то праўда: «Тутэйшыя» ў купалаўцаў выклікаюць самыя непасрэдныя аналогіі з сённяшнімі праблемамі ў грамадстве. Дакладныя паралелі ўзнікаюць імгненна. І ўсё ж пастаноўка М. Пінігіна далёка не публіцыстыка, што асабіста мяне больш за ўсё і захапляе. Гэта мастацкі твор, у якім адчуваецца свабодны погляд на людзей і падзеі. Сама «політычна-эканомічная сытуацыя» паўстае мастацкім аргументам, які надзіва выразна скарыстоўвае У. Кін-Камінскі, увасабляючы ўладароў-гвалтоўнікаў.

Спектакль мае адмысловыя эстэтычныя каардынаты. Батлейка як пастановачны прынцып вызначае функцыяніраванне сцэнаграфіі, пабудову мізансцэн, раскрыццё характараў. Скразны прыём з адной вобразнай структуры пераліваецца ў другую, становячыся дзе метафарай, дзе алегорыяй, дзе сімвалам. І ўжо спакусліва зазначыць, што толькі так і трэба і можна прачытаць п'есу Янкі Купалы на сцэне...

Вобразы Зноска і Здольніка набываюць адметнае асэнсаванне, а батлеечны спосаб сцэнічнага існавання гэтых персанажаў дазваляе паразумецца з іх «говорящими фамилиями». На трактоўцы гэтых вобразаў адбіваецца пэўны позірк наперад сённяшняй «сытуацыі». Тым не менш праблема Часу параўнальна скора стане перад спектаклем. Але гэта ўжо драма жанру...

**ПА СТАРОНКАХ ДРУКУ**

# *Сяргей ЗАЛЫГІН:*

# З НАТАТАК МІНУЛАГА ГОДА

**Дзённікі мала хто вядзе сёння, няма калі, хвіліны на працягу дня ні ў кога вольнай — а гэта вялікая страта. У нашых жа, такіх бурных, трагічных і перанасычаных падзеямі часінах дзённікі сталі б неацэннымі дакументамі.**

**Але мяне вось на што ўсё яшчэ хапае: у канцы года, у самым пачатку наступнага я выбіраю дзень-другі, гадзінку-другую і прыгадваю: у мінулым годзе пра што я думаў? Што прыходзіла ў галаву, што з таго, што прыходзіла, у галаве засталося! Такім вось чынам ужо некалькі гадоў я і пішу «нататкі мінулага года» і друкую іх у газетах.**

У 1989-м годзе Першаму з'езду народных дэпутатаў было невядома нічога, нават тыя пытанні, якія ён, сабраўшыся, павінен вырашаць, усе рыхтавала ўсё тая ж КПСС, якая разглядала з'езд як уласны сродак уласнага абнаўлення. І прынцып быў партыйны, даўно вядомы: рухацца і рухацца, у руху вызначаючы: куды, у які бок, да якой мэты і дзеля чаго? Калі што было вядома, дык не больш за тое, што «ад горшага — да лепшага», ад «цёмнай мінуўшчыны» да «светлай будучыні», і ўсё гэта «дзеля шчасця народа» (сацыялістычнага).

Зараз — з'езд ужо Чацвёрты, а што стала больш ясным, больш пэўным?

Бадай, адзінае, што акрэслілася досыць выразна, дык гэта — хто супраць каго, але ніводнай праграмы ні ў кога няма, нават у тых, хто гатовы галаву пакласці за «незалежнасць». Але незалежнасць — гэта рыса чалавечага характару, гэта — мэта, аднак ні характар, ні мэта яшчэ ніколі і самі па сабе не становіліся рэальнай праграмай, якая ўлічвае рэальныя магчымасці дасягнення мэты.

Мы ўсё яшчэ не дайшлі да парадку дня (хай нязздзейсненага) Устаноўчага сходу, які меў на ўвазе прыняцце ці адхіленне той ці іншай праграмы. У нас праграм няма, а ўсе спробы іх стварыць не былі паспяховымі, мы спрачаемся не больш, чым пра магчымыя накірункі нашага руху: аб руху да рынку і супраць, аб прыватнай уласнасці і супраць, аб нацыянальнай незалежнасці і супраць. Мы спрачаемся пра паняцці для цывілізаванага свету бясспрэчныя, і раз пораз не можам зразумець, хто ўсё ж такі ўсе мы беспраграмныя — сацыялісты, камуністы, дэмакраты, нацыяналісты, інтэрнацыяналісты, гуманісты, а то і прыхільнікі дыктатуры?

Не можам яшчэ і таму, што самі гэтыя паняцці страцілі ў нашых розумах свой сапраўдны сэнс, здабыты ў духоўным жыцці нашых дзядоў і прадзедаў, тое, што было зразумела многім пакаленням, для нас загадка і містыка.

Гісторыя, навука, мараль і маральнасць, самі ўяўленні пра чалавека і чалавецтва ў нас такія, што ні Пушкін, ні Талстой, ні Чэхаў не маглі б, напэўна, штосьці пра іх сказаць — здаровы сэнс схільны да ўсяго таго, што рухаецца ўперад, развіваецца, тэарэтычна і практычна ўзбагачаецца, але паняцці, адкінутыя назад, знявечаныя, абылганыя, прымітызаваныя, але і амбіцыёзныя — гэта такая трагікамедыя, такое кашчунства, што для розумаў светлых назаўсёды застанецца недаступнай загадкай.

Вось ужо гісторыя, дык гісторыя! Нікому не даступная — ні гісторыкам, ні футуролагам.

Трэба вярнуцца да сэнсу слоў. Вернемся — будзем жыць. Усё-такі не верыцца, што такое вяртанне для нас ужо утопія.

●

Чаму гэта самымі дэмакратычнымі, устойліва і спакойна дэмакратычнымі дзяржавамі, з'яўляюцца якраз тыя, у якіх дагэтуль існуюць манархіі?

Швецыя, Нарвегія, Данія, Бельгія? Нідэрланды? Англія? І вось яшчэ Іспанія? Японія?

Ці не таму, што дэмакратыі неабходна яшчэ і нейкая сімволіка ўлады — пастаяннай, незалежнай ад перыпетый народаўладдзя?

У 1917-м годзе Часовы Урад вырашыў склікаць Устаноўчы сход — вось ён і павінен быў вызначыць і дзяржаўнае ўпарадкаванне Расіі, і яе накірунак у руху да будучыні.

Сход гэты бальшавікі разагналі, ён быў ім не патрэбен: і дзяржаўнае ўпарадкаванне, і мэты, і спосаб, і накірунак руху ім былі вядомы дасканала, як нікому іншаму.

Дэмакратыі неабходны не адзін, а два працэсы: уласнага наступальнага станаўлення і адступаючага гістарычнага мінулага.

Пэўна, менавіта гэты стан наступлення-адступлення больш за ўсё і адпавядае сапраўднаму духу дэмакратыі?

●

Наш цяперашні парламент быў столькі ж жаданы, колькі і нечаканы, ні еўрапейскага, ні азіяцкага працэсу яго фарміравання ў нас раней не было, і зараз самім фактам свайго існавання ён выклікае да жыцця гэтулькі праблем і загадак, што вырашыць іх аніяк не можа.

Мы ўяўляем сабой той амаль небывалы ў гісторыі выпадак, калі форма кіравання ўзнікае раней, чым яго змест, аб'ём будучай дзейнасці яшчэ не вызначаны, пра методыку вырашэння праблем і вопыт у гэтым накірунку і гаворкі няма, а форма кіравання ўжо вось яна, з агню-полымя.

У гэтым сэнсе наш парламент прамы працяг савецкай і партыйнай улады, вынікі якой ён імкнецца ліквідаваць, сам будучы яе вынікам, як і ў 17-м годзе вызначаючы форму ўлады, у той час калі змест яе ўсё яшчэ не больш чым фантазія.

І вось ужо дзейнасць нашага парламента зводзіцца да адкрыцця і пастаноўкі ўсё новых і новых праблем, пры адсутнасці методыкі іх вырашэння. І гэта ў той час, калі задача парламента — зводзіць да мінімуму колькасць дзяржаўных праблем. Але здаецца, позна ўжо пачынаць перабудову перабудовы, мяняць усе чатыры колы на хаду. Прыпынак немагчымы, хіба толькі павароты — крутыя і неапрабаваныя.

●

Для чалавека, які думае пра чалавека і чалавецтва, існуе, уласна, толькі адна ісціна: усе мы памром.

Усё астатняе, усё, што вакол гэтага, толькі здагадка, толькі фармуліроўка, але ніяк не ісціна.

Калі так, ці можа быць ісціна смерці прадуктыўная ў сэнсе развіцця думкі, тым больш — самога жыцця?

Я не сумняваюся — можа.

Чалавецтва само па сабе не бясконцае, яно — канечнае, таму і думка яго — канечная, таму і прадметам яго думкі могуць быць з'явы толькі канечныя, якія маюць пачатак і канец, у тым ліку (у вяршыні мыслення) і думка аб жыцці наогул.

З'явы бясконцыя і вечныя, такія, як прастора і час, для нас назаўсёды застаюцца неймавернымі, тым больш — неасэнсаванымі.

Навука праявіла легкадумнасць, калі заявіла аб адсутнасці для яе перашкод, аб сваёй здольнасці спазнаваць свет ва ўсіх яго праявах.

Рэлігія, якая ўзнікла раней, чым навука, і таму, напэўна, мудрэйшая, адразу ж устанавіла абмежаванасць чалавечага спазнання. У жыцці было, ёсць і заўсёды будзе нешта неспазнавальнае, сцвярджае яна, яго і трэба прыняць, як нешта боскае, можа быць, як самога Бога, а непрыняцце рэальнай неспазнавальнасці ёсць большая ірэальнасць, чым якая-небудзь іншая. Ірэальныя велічыні — таксама велічыні, таму параўнанні іх «больш-менш» зусім дапушчальныя. Вось мы і з'яўляемся сведкамі таго, як рэлігія заваёўвае розумы і асобы, як адцясняе яна сёння навуку, у значнай меры скампраметаваную.

Думка ж пра жыццё, як з'яву канечную, нам зусім даступная. Калі і як, па якой такой прычыне, што раней, а што пазней памрэ? — гэта і навуковая, і паўсядзённая думка, больш за тое — гэта прычына і вынік ці не любой думкі, дзеяння і адкрыцця яшчэ і таму, што ісціна смерці гукае да нашага жыцця: трэба паспець!

●

Калі б у нас не было прычын спяшацца жыць, не было б і самога жыцця. Жыццё — працэс, кожнаму працэсу адведзены свой тэрмін і свая ступень актыўнасці.

Руская думка гэта заўсёды не толькі нешта супрацьлеглае, але і альтэрнатыўнае, і антаганістычнае з'яве рускага жыцця.

Немец гэтак жа не ведае сваіх філосафаў, як рускі сваіх, хіба крышачку больш, англічанін не ведае іх зусім, і Сатурн яму бліжэй, чым Берклі, але жыццё немцаў і англічан само па сабе бліжэй да іх нацыянальных філасофій, бо іх філосафы былі людзьмі сваёй нацыянальнасці. Рускія ж філосафы наднацыянальныя, асабліва ў тых выпадках, калі яны кідаліся ў развагі аб Расіі, аб яе гістарычным прадназначэнні, аб рускім характары, галоўнай рысай якога з'яўляецца няўменне жыць, г. зн. няўменне сумясціць думку аб жыцці з жыццём. Невыпадковы той факт, напрыклад, што ў амерыканцаў не такая багатая літаратура, але вельмі шмат прамоўцаў (увесь без выключэння кангрэс), а ў нас пры высокай культуры пісьма ніхто не ўмее гаварыць коратка, выразна і пераканаўча.

Прычына тая ж: вусная мова бліжэй да паўсядзённага жыцця, чым да літаратуры, а пісьмовая — бліжэй да літаратуры і далей ад паўсядзённасці.

Мы лепш адлюстроўваем жыццё, чым жывём. Паказам рэальнасці мы ўзбагачаем і замяняем самую рэальнасць.

Сапраўдны сэнс слоў у значнай ступені страчаны нашым грамадствам дзякуючы сацыялістычнай сістэме, у якой знаходзілася некалькі пакаленняў савецкіх людзей.

Такія словы, як «святасць», як «народаўладдзе» і «народ», «дзяржава», «грамадская думка», «свабода» і многія іншыя, аказаліся прыстасаванымі сацыяльнай нашай сістэмай да ўласных патрэб, да свайго ўласнага утылітарнага разумення і страцілі свой гістарычны і агульначалавечы сэнс.

На першым плане аказаліся не назоўнікі, а прыметнікі да іх: эканоміка ў нас сацыялістычная, праца — ударная, народы — савецкія, дзяржаўныя дзеячы — выдатныя і вялікія і г. д., і г. д. А калі прыйшоў час уласна эканомікі, сапраўднага самавызначэння народаў, рэальнай уласнасці, высветлілася, што мы не ведаем, што гэта такое. І разважаем аб тым, якой павінна быць наша эканоміка, не маючы яе ў руках, гаворым аб якасці прадмета, не бачачы і не валодаючы гэтым прадметам.

Уся наша мысліцельная дзейнасць, такім чынам, скажоная, пераключаная з сутнасці справы, з назоўнікаў на прыметнікі.

Мы ўсё яшчэ грамадзяне таго сацыялістычнага грамадства, якога ніколі не было, а быў толькі яго сурагат, была пародыя на яго, зараз няма і гэтага сурагату, і мы ў разгубленасці.

Тэорыя марксізму-ленінізму, з якой мы непахісна зыходзілі, засталася тэорыяй, але не стала надзейнай практыкай толькі таму, што яна не прадугледжвала адступленняў. (Спроба такога роду Леніна памерла разам з ім).

У працэс развіцця капіталізму лёгка ўключаюцца элементы сацыялізму: нацыяналізацыя вытворчасці, удасканальванне сацыяльна-бытавых умоў працоўных, грамадзянскіх правоў і грамадскіх інстытутаў, і, скажам, тая ж Швецыя аказалася бліжэй да сацыялізму, чым Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік; але наш сацыялізм не прадугледжваў «адступленняў», ён ішоў толькі ўперад, ён быў «развітым» па адзінай прычыне сваёй незвычайнай прывязанасці да прыметнікаў, да той велізарнай скажальналінгвістычнай работы, якая прывяла да скажэння слоў і паняццяў. Вось мы і выхоўваліся прыметнікамі без назоўнікаў і не ведаем, што такое эканоміка сама па сабе, калі яна не «сацыялістычная», што такое грамадства, калі яно не «перадавое», што такое чалавек, калі ён не «савецкі». А ведаць усё гэта трэба. Інакш — не пражывём.

---

Артыкул С. Залыгіна «З нататак мінулага года» друкаваўся ў «Комсомольской правде» 11 і 12 студзеня гг. Адрасуем увазе лімаўскага чытача пераклад першай часткі артыкула. Мяркуем, што думкі выдатнага рускага пісьменніка варты таго.

---

**ПРАГЛЯДВАЮЧЫ і вывучаючы папкі з архівам Антона Луцкевіча, я неяк вырашыў для сябе: справы 221—226 глядзець не буду. Я займаюся палітычнай гісторыяй, а там — пераклад «Кнігі джунгляў» Рэдзьярда Кіплінга, белетрыстыка. Калі вывучыў каля сотні спраў, пачало грызці сумленне: усё-ткі «Кнігу джунгляў» А. Луцкевіч перакладаў у славутым астрозе — Лукішках, куды яго кінулі ў кастрычніку 1927 года ў сувязі са справай Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. І я папрасіў бібліятэкарку, шаноўную пані Зіту, прынесці тыя папкі.**

**Чорныя агульныя сшыткі. Акуратны, каліграфічны почырк А. Луцкевіча. Хоць сёння аддавай рукапіс машыністцы, а то і ў набор. Тэкст перакладу займае няцотныя старонкі; цотныя — чыстыя. Трэба высветліць, з якое мовы перакладаў А. Луцкевіч «Кнігу джунгляў». Што ён ведаў лаціну, рускую, польскую, французскую, нямецкую — факт вядомы: у паперах захоўвюцца тэксты на гэтых мовах, пісаныя рукою А. Луцкевіча. У копіі пашпарта (спр. 320, аркушы 2—3) напісана, што ён размаўляе па-польску, французску і па-нямецку. І толькі ў адной паперы я прачытаў назвы англійскіх гравюр і прозвішчы мастакоў, напісаныя Луцкевічам па-англійску. Ці ведаў ён англійскую настолькі добра, каб перакладаць мастацкія кнігі? Вось пытанне.**

**Але вернемся да сшыткаў. Усюды цотныя старонкі чыстыя. І толькі ў справе 224 яны спісаны дробным, хуткім почыркам і не заўсёды разборліва. Учытваючыся ў гэтыя запісы, я зразумеў: перада мною — своеасаблівы астрожны дзённік Антона Луцкевіча.**

●

**Мне ўжо даводзілася пісаць, што А. Луцкевіч не быў членам БСРГ. Я ўжо тлумачыў, чаму ён не стаў паплечнікам сваіх таварышаў па Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Браніслава Тарашкевіча і Сымона Рак-Міхайлоўскага — лідэраў Грамады. Знойдзеныя мною матэрыялы ды некаторыя публікацыі, пра якія я дасюль не ведаў, дазваляюць больш дакладна высветліць адносіны А. Луцкевіча да БСРГ.**

**Вядома, што ў 1922 годзе А. Луцкевіч узначаліў Беларускі Цэнтральны Выбарчы Камітэт (БЦВК). Дзякуючы добра наладжанай працы ў сойм і сенат Польскай Рэспублікі ўдалося правесці 11 паслоў і трох сенатараў. Беларускі пасольскі клуб (БПК) складаўся з сацыял-дэмакратаў, сацыялістаў-рэвалюцыянераў, хрысціянскіх дэмакратаў і беспартыйных. Дакументы (спр. 320, аркушы 86—88, 162—163) сведчаць, што платформу клуба, яго тактыку, унутраную арганізацыю і рэгламент распрацаваў А. Луцкевіч. Аснову платформы склалі тэзісы БЦВК. Тактыка ж была такая:**

«Ідучы ў Сойм дзеля абароны правоў беларускага нясяленьня, БПК займае становішча безадказнае апазіцыі ў польскай дзяржаўнай палітыцы.

Салідарнасьць з другімі нацыянальным меншасьцямі ў справах нацыянальных.

Салідарнасьць з дэмакратыямі Польшчы ў справах сацыяльных.

Вольная рука ўва ўсіх іншых справах».

**Рукою А. Луцкевіча напісана таксама, што старшынёю БПК павінен стаць Тарас — Браніслаў Тарашкевіч.**

**Была наладжана больш-менш згодная праца паслоў і сенатараў, бо ўсе яны выступалі за перадачу зямлі сялянам, за ліквідацыю асадніцтва, за беларускую школу...**

**Была ў Заходняй Беларусі яшчэ адна сіла — камуністы. Праўда, напачатку камуністычныя арганізацыі, раскіданыя па гарадах, з'яўляліся хутчэй сектамі, бо як жа інакш назваць гурткі, якія не валодалі моваю беларускага народа і былі адарваныя ад яго. Партыяй камуністы сталі пасля таго, як да іх далучыліся колішнія левыя беларускія эсэры — Беларуская Рэвалюцыйная Арганізацыя (Язэп Лагіновіч, Леапольд Родзевіч, Арсень Канчэўскі ды інш.). Дзякуючы ім камуністы маглі пачаць размову з народам. Апроч таго, КПЗБ была падмацавана кадрамі з Савецкай Беларусі. Сярод гэтых кадраў і Міхась Гурын-Маразоўскі — паплечнік Усевалада Ігнатоўскага, Міхася Чарота, Сцяпана Булата па Беларускай Камуністычнай Арганізацыі, адзін з рэдактараў «Савецкай Беларусі». Родзевіч і Гурын паспрабавалі стварыць самастойную КПЗБ, не падпарадкаваную Кампартыі Польшчы (гэтак званая сэцэсія), але пад націскам КПП, КП(б)Б, Камінтэрна і кіраўніцтва КПЗБ вымушаныя былі адмовіцца ад сваіх намераў. Няўдача сэцэсіі відавочна паўплывала на пазнейшыя паводзіны Гурына-Маразоўскага.**

---

**(Працяг. Пачатак у № 3).**

**Уладзімір ВАСІЛЕВІЧ, Ігар КАРАШЧАНКА**

# ДА ЗЕМЛЯКОЎ, ЗА 4000 КІЛАМЕТРАЎ...

## Сібірскі дзённік

...ДВА невялічкія «ПАЗікі» коцяць на чыгуначную станцыю Чаны, з якой мы сюды прыехалі. Нейкую гадзіну чакаем на вакзале цягніка. Білеты, аказалася, можна ўзяць без чаргі, ды яшчэ ў плацкартны, з пасцеллю, вагон — не так, як ехалі з Новасібірска. І штурмаваць вагон не давялося, усё адпаведна месцам. Адчуваем, што адвыклі мы трошкі ад цывілізацыі. Займаем свае паліцы. З намі толькі адзін чалавек. Пачуўшы нашу гаворку, перапытаў: беларусы? І далейшую дарогу гаварыў з намі па-ўкраінску. Жыве ў Львоўскай вобласці, а працуе тут па вярбоўцы пад Барабінскам. Мы расказалі пра сваю работу, пра сустрэчы з беларусамі. Пацікавіліся, ці ёсць там, куды ён едзе, яго землякі — перасяленцы з Украіны. Махнуў толькі рукою: «Ат, такія, што саромеюцца назвацца ўкраінцамі». Напэўна, і нашых паўднёвых суседзяў спасцігла ў гэтым чужым краі такое ж нацыянальнае выраджэнне, як і іншых народаў, што засяліліся сюды.

У даўнейшай Барабінскай акрузе, дзе сышоў наш папутчык, у пасёлку Медзякоўскім, працавала некалі ў б е л а р у с к а й школе пісьменніца Зінаіда Бандарына. Што сталася з той школаю пасля яе ад'езду? Ці жыве яшчэ хто з дзетак-перасяленцаў, якія памятаюць сёння тую далёкую настаўніцу? Якая ў Медзякове сёння школа і якія там людзі? Вось бы дабрацца калі ў той куток... Але імчым далей.

Зноў апынуліся мы ў Новасібірску. Адсюль накіроўваемся ў Акадэмгарадок (гадзіна язды на аўтобусе) і там, кінуўшы якар у гасцініцы «Залатая даліна», будзем планаваць нашы раз'езды па ўсходняй ужо частцы Новасібірскай вобласці. У гэты дзень адзін з нас пасля ўладкавання спяшаецца ў абласны архіў, другі звязваецца з прадстаўніком таварыства «Беларусы Сібіры» А. А. Мітарам. Яшчэ за некалькі месяцаў да сваёй экспедыцыі мы накіравалі ліст на адрас сібірскіх землякоў, задалі шэраг папярэдніх пытанняў, што цікавілі нас. Аднак з адказу зразумелі, што таварыства фактычна толькі назвалася, а на ногі ж як след яшчэ не стала і да стратэгічных планаў справа пакуль не дайшла.

Альберт Антонавіч Мітар аказаўся вельмі цікавым чалавекам, добра дасведчаным ва ўсіх нацыянальных пытаннях. Атрымлівае багата беларускай перыёдыкі, амаль штогод бывае на радзіме, пад Баранавічамі. Па прафесіі ён эканаміст. Расказаў, што ў таварыства «Беларусы Сібіры» ўваходзяць людзі розных спецыяльнасцей і ўзростаў. Небагата іх — нешта 25-30 чалавек. На лета работа спыняецца — адпачынкі, дачы... Па неафіцыйных падліках у Сібір некалі выехала каля двух мільёнаў беларусаў. Дагукайся да іх цяпер, тым больш запісаных рускімі, калі прайшло столькі часу. Але ж трымаюцца сваёй культуры і мовы маленечкія астраўкі эстонскіх пасяленняў (100-годдзе адзначыла толькі што эстонская вёска Нікалаеўка ў Кыштоўскім раёне, паўз якую мы праязджалі). Актыўна ўзялося і ўкраінскае зямляцтва за адраджэнне нацыянальнай традыцыі. Разумее і Мітар, разумеем і мы, наколькі позна, ой як позна надумаліся мы ўсе склікаць сваіх суайчыннікаў, якіх у розныя часы пагублялі па ўсёй планеце і пераважную большасць якіх, напэўна, ужо страцілі назаўсёды. Ці спрацуе ў гэтым нашым выпадку так званы «сіндром трэцяга пакалення», калі ўнукі пачынаюць вяртацца да тых нацыянальных традыцый, якія адмаўляліся іх бацькамі? Каб жа ж «трэцяе пакаленне» — тут ужо гаворка вядзецца пра пятае і шостае, цалкам дэнацыяналізаванае...

У параўнанні з амаль недасяжнай Кыштоўкай Машкоўскі і Балоцінскі раёны па карце здаваліся зусім блізкімі. Аднак не ўсё так гладка, як мроілася. Электрычкі ходзяць у Машкова і тым больш у аддаленае Балотнае рэдка (не так, як з Мінска ў Маладзечна), і мы, выехаўшы раніцой з Акадэмгарадка на Новасібірскі вакзал, у Машкова прыбываем толькі пад канец рабочага дня. Ні на адно з нашых пытанняў сімпатычная жанчына — інструктар аддзела культуры — не магла даць адказ. Начальства ў адпачынку, выканкомаўская машына на рамонце. У вёскі, якімі мы зацікаўлены, сёння нам ніяк не дабрацца (у дадатак лупянуў лівень сцяной). Добрую гадзіну інструктар круціла тэлефонны дыск, так нікуды і не дазваніўшыся. Адсутнасць тэлефоннай сувязі — з'ява тут даволі частая. Калі стала ясна, што нікуды ў гэты дзень мы больш не трапім, пацікавіліся мясцовымі краязнаўцамі. Жанчына назвала нам імя чалавека, які зараз збірае экспанаты для будучага Машкоўскага музея. Пайшлі да яго са спадзяваннем выйсці на цікавыя адрасы.

Гасцінная сям'я, незнаёмых людзей адразу пасадзілі за стол. Стары гаспадар аказаўся напалову беларусам (па маці), але лічыць сябе рускім. Згадвае матчыну радню, якая да смерці дажыла са сваім нявыпраўленым вымаўленнем, а родныя цёткі нават песні спявалі беларускія. Нікога з іх ужо няма на свеце... Музей жа будучы збіраюцца прысвяціць слаўнаму рэвалюцыйнаму мінуламу гэтага краю. Глыбей наш краязнаўца не капаў і, як мы зразумелі, капаць не будзе.

У гасцініцы аднаго з нас адмовіліся размясціць, паколькі без забытага пашпарта, а толькі са службовым пасведчаннем і камандзіроўкаю — «не положено». Давялося другому ўдзельніку экспедыцыі ўзяць калегу пад сваю адказнасць на гэту ноч. А пільная супрацоўніца на ўсякі выпадак папярэдзіла міліцыю пра такі выключны і падазроны, на яе погляд, выпадак. А 6-ай гадзіне раніцы мы пакінулі гэту негасцінную гасцініцу.

Улову ў той дзень таксама не атрымалася. Прыехалі ў адну нараеную мясціну, вельмі маляўнічую, на высокім беразе велічнай Обі. Ды, пахадзіўшы па зялёных, досыць акуратных вуліцах шырока раскінутага пасёлка, у якім ніхто нічога ні пра кога не ведаў, тым больш пра нейкіх там беларусаў, мы выбраліся зноў да чыгункі, на станцыю Аяш. Доўга і беспаспяхова лавілі папутку на Балотнае, у выніку чаго адзін, страціўшы надзею, вярнуўся ў Акадэмгарадок, а другі пастаяў-пастаяў яшчэ колькі часу і неяк уціснуўся ў праезджую машыну. Ён нацэліўся на вёску Бальшарэчка. У 20-я — пачатку 30-х гадоў наваколле Бальшарэчкі (ці як даўней казалі — пасёлка Бальшарэчанскага, згаданага, дарэчы, Максімам Гарэцкім у «Сібірскіх абразках») уяўляла сабою дзівосную беларускую «выспу». Мяркуйце самі: з дзесяці беларускіх школ, што існавалі ў 1928 годзе ў Сібіры, тут знаходзілася чатыры. У Бальшарэчцы была беларуская 7-гадовая школа, а ў суседніх Бярозаўцы, Аляксандраўцы, Верхатураўцы працавалі беларускія пачатковыя школы. Настаўнікаў для гэтых школ прысылалі з Беларусі, адтуль жа прыходзілі пасылкі з падручнікамі, дапаможнікамі, мастацкай літаратурай.

Раніцай этнограф пазваніў у гасцініцу і паведаміў фалькларысту пра месца свайго знаходжання. Гарадок Балотнае выразна адрозніваўся ад папярэдне бачаных безаблічных станцый. Ён меў свой непаўторны воблік, дзякуючы старой сібірскай архітэктуры. Дамы з пацямнелых ад часу бярвенняў былі скрозь упрыгожаны карункавымі ліштвамі, і кожны раз са сваім малюнкам. Можна было заўважыць, што месцамі на новы, але збудаваны ў старой традыцыі дом пераносіліся старыя, зробленыя, напэўна, яшчэ ў мінулым стагоддзі ліштвы.

Аўтастанцыя аказалася ўсяго толькі... шчытом з раскладам прыгарадных аўтобусаў. Патрэбны аўтобус павінен быў адправіцца, аказваецца, не ў 5, а ў 6 (летні час...). Зноў пад'ехаў знаёмы караван «ПАЗікаў» і строга па раскладзе рушыў у патрэбным напрамку. Колькі ўжо дарог праехалі мы за гэты месяц! Але гэтая здалася нейкай асабліва беларускай. Праўду казалі новасібірскія фалькларысты, што беларусы знайшлі ў Сібіры ўсе, якія толькі ёсць, балоцістыя мясціны.

Шукаць калегу ў незнаёмай Бальшарэчцы не давялося, праз акно аўтобуса відно было, як ён мільгнуў у адным з двароў — развешваў вышываныя ручнікі і абрусы на плоце, каб зафатаграфаваць. Гаспадыня таго дома і падворка аказалася з чарнігаўскіх беларусаў, з выдатнай беларускай мовай. Пасля здымкаў заходзім у хату, распытваем. Еўдакія Аляксандраўна Гарэленка (1916 года) расказвае пра сябе. З адзінаццаці яе дзяцей жывых засталося пяцёра. У вайну атрымала пахаронку на мужа і — жыццё ёсць жыццё — «зайшла» за другога. Пачалі весці новую сям'ю. А тут скончылася вайна, і вярнуўся першы муж, жывы і здаровы. Але ж назад ужо нічога не павернеш. Неўзабаве і той ажаніўся. А куды дзенешся?.. Час ад часу жанчына пераказвае нам песні, перабірае ў руках дарагі матчын ручнік, зроблены, як яна кажа, «у жучкі і бабачкі».

З гэтага дома ідзём у другі бок сяла, да настаўніцы, якая, збірае матэрыялы пра Бальшарэцкую школу. Тое, што цікавіць нас (а менавіта беларуская накіраванасць гэтай школы ў пэўны перыяд яе гісторыі), ёй невядома. Праўда, на гэту тэму сёе-тое высветлілася, калі давялося наведаць яшчэ аднаго земляка — Антона Захаравіча Голуба. Тое, што ім было сказана, выклікала самыя розныя пачуцці. Вучыўся Голуб у Томскім педагагічным тэхнікуме на беларускім аддзяленні, якое існавала з пачатку 1930 года (больш падрабязна мы раскажам пра яго ніжэй). Разам з ім вучыліся беларусы не толькі з Балоцінскага, але і Купінскага раёна, што на Барабіншчыне. Горка толькі стала ад размовы, калі з вуснаў гэтага чалавека прагучала нечаканая трактоўка тагачаснага развіцця беларусчыны ў гэтым краі: «Прыехалі з Беларусі вучыцеля — Бабіновіч (першы дырэктар, стары афіцэр), Веракса... І сталі здзесь б е л а р у с ы кругом. Н а ц ы я н а л ь н а с ц ю сталі, знаеце, захацелі беларускую мо-о-ову!.. Паставілі пытанне адкрыць беларускае аддзяленне ў Томскім педтэхнікуме, пачалі будаваць школу ў Бальшарэчцы капітальна. Ну і што, ні па-руску, ні па-беларуску толкам не знаю і цяпер...» І з такімі поглядамі давялося сустрэцца...

Па цёмнаму вяртаемся ў дом, дзе адзін з нас ужо пераначаваў. Сям'я, можна сказаць, у самым лепшым веку: Мікалаю і Тані Слугіным абодвум па 40. Дачцэ Ніне 17 год, на алімпіядзе па хіміі нядаўна заняла першае месца, праз год трэба будзе паступаць кудынебудзь. Сыну Сяргею — 10, прынёс паказаць нам знойдзены ў падручніку малюнак украінца ў сініх шараварах: «Такіх вы шукаеце?» Не, шукаем, братка, беларусаў... Прыехалі яны сюды нядаўна з Хакасіі, хоць гаспадар адсюль родам. Гады тры назад выклікалі яго ў ваенкамат і адправілі разам з іншымі маладымі мужчынамі ў Чарнобыль. І вось прайшло колькі часу, і тыя хлопцы, што ездзілі з ім, пачалі цяжка хварэць, некаторых сталі кідаць жонкі. Міжволі згадалася народнае: «Муж любіць жонку здаровую, а брат сястру багатую». А жонка — якога яна любіць мужа? Семдзесят дзён у Чарнобылі «хапіла» Мікалаю, каб страціць здароўе: схуднеў на 15 кілаграмаў, упаў ціск, мучае галаўны боль, ломіць цела, баліць пячонка, селязёнка, горшае аналіз крыві... Дактары наказалі развітацца з шафёрскай справай, дазволіўшы вадзіць толькі свайго «Запарожца», і то не больш як тры гадзіны запар. І калі пачуў Мікалай, што сябры-выратавальнікі пасля таго чарнобыльскага ліха пачалі сыходзіць у магілу, прыняў ён рашэнне вярнуцца з усёй сям'ёю з той далёкай Хакасіі на радзіму, у Бальшарэчку: паміраць, дык хоць там, дзе нарадзіўся. Цяпер ён вартуе аўтапарк, а Таццяна верна пры ім дзеліць усе яго пакуты. Мікалай таксама нашчадак (праўнук) беларусаў. І вось — такое драматычнае наведванне зямлі сваіх продкаў. Так злавеснай пачварай распаўзаецца па ўсёй зямлі чарнобыльская пляма...

Бальшарэчка стаіць на трох прыгожых ставах — Магільнікавым (пазней названы Школьным, ад навейшага арыенціра), Сярэднім (Паштовым) і Вясковым. Даведваемся, што Бальшарэчку засялялі беларусы з трох губерняў — Магілёўскай, Мінскай і Гродзенскай (апошніх было куды менш і засяляліся яны пазней, толькі дзесьці перад першай сусветнай вайной). Спачатку прыехалі «мігілеўцы», але праз год ці два, калі тут пачалі засяляцца і «мінцы», першыя адчулі нібыта прыцясненне сваіх правоў. Напэўна, з-за тэрытарыяльных прэтэнзій і ўзнікла між землякамі варажнеча, якая працягвалася ажно на працягу некалькіх пакаленняў. Кожная губерня захоўвала свае моўныя асаблівасці (і пры гэтым перадражнівала адна адну), свой песенны рэпертуар і асаблівасці быту. Па размяшчэнні хат можна было пазнаць, якія выхадцы ў іх жывуць. У «мінцаў» акон на вуліцу не было, а толькі ў двор. Яны казалі: «Што нам там глядзець — усё дабро ў двары». Ну, а калі абвастраліся адносіны, то лепш тады ворагу было не ступаць на суседаву тэрыторыю. Час сцёр не толькі дыялектныя асаблівасці іх гаворкі, але і, дзякаваць Богу, даўні зацяты разлад між сабою, прымірыў землякоў.

Да паўдня наш рабочы дзень выдаецца зусім не фальклорным, а выключна этнаграфічным. Лепшую спявачку «мінскага» канца павезлі на аперацыю, а без яе песня тут не заладзіцца. Распытваем жанчын на вуліцы пра старыя рэчы — ручнікі, строі, абрусы, посцілкі. З розных двароў выносяць нам тое, што засталося ад матак, цётак, бабуль. Большасць людзей аддае рэчы для нашага Музея старажытнага мастацтва без шкадавання і пры гэтым нам яшчэ дзякуюць, што хоць бабіна работа не загіне, а нехта будзе ёю любавацца. А пакінь, і што з таго? Унукі папаляць, як непатрэбшчыну, — кажуць яны. Проста не верылася, як адна адну падгаворвалі: «Нясі і ты свой стары ручнік, чаго ён у цябе далежыцца? А так хоць некаму памяць застанецца!» Прымаем дары, тут жа робім дакладную пашпартызацыю: хто і калі вышыў ці выткаў, адкуль тыя майстрыхі з Беларусі прыехалі (г. зн. якую традыцыю панеслі з сабою ў Сібір). Нярэдка паведамляюць, што зроблена тая ці іншая рэч яшчэ «ў Расеі», да пераезду сюды. Вылічваем, колькі прайшло год, як памерла ткалля, у якім яна была веку, вызначаем год яе нараджэння, накідваем 20 гадоў (сярэдні век замужжа, да якога ткалі і вышывалі) і такім чынам хоць прыблізна высвятляем год стварэння вырабу. Самыя познія работы — перадваенныя, іх перадаюць самі стваральніцы. Найбольш жа старым творам перавеліла за сотню.

Перадала бацькаву кашулю, вышытую яе маткаю, настаўніца мясцовай школы Надзея Халіпава. З самой жа вышывальшчыцай, якая ў дадатак аказалася і лепшай у Бальшарэчцы знаўцай беларускіх песень (праўду кажуць: калі чалавек таленавіты дык ва ўсім), мы пазнаёміліся пасля абеду. Ад старой потым мы і даведаліся пра гісторыю кашулі. Вышывала яна яе для свайго жаніха перад шлюбам, і муж доўга потым любіў надзяваць кашулю ў асабліва ўрачыстыя моманты. А потым — як адрэзаў: ці здалося яму, што выйшаў той даўні дарунак з моды, ці з гадамі цяжкавата было ў тую кашулю ўлезці — пра тое можна толькі меркаваць. Але ляжала яна сабе спакойна ў шафе. І неяк незадоўга да дзедавай смерці папрасіў у бабы ўнук дзесьці выступіць у той святочнай кашулі. Перадаючы, баба наказала, каб хлопец абавязкова вярнуў, таму што па спрадвечным звычаі менавіта ў шлюбнай кашулі дзеда трэба будзе пахаваць, як прыйдзе час. Пачуўшы жончыны словы, дзед прыгразіў: «Толькі надзень, то з таго свету прыду і задушу!» Вось ужо і дзеда няма, а кашуля засталася. І дарагая, як памяць, і нікому ўжо непатрэбная, амаль што праклятая тым, для каго была некалі пашыта... Дык няхай жа бабіна работа не гіне — павязём яе з сабою.

Жанчына з мінскага канца перадае ручнікі, вышываныя яшчэ свякроўчынай маткай, якая звалася Саламея Ятчанка. На такую мастацкую вышыўку цяпер ужо, відаць, ніхто не здатны ў Бальшарэчцы. Тое ўмельства даўно ўжо адышло з Саламеяй у магілу. Знайшоўся і вышываны стары фрагмент ручніка, перароблены на хвартушок, у якім унучка жанчыны (каторае пакаленне ад Саламеі?) мые цяпер посуд. Усё бяром. Тлумачым: на радзіме вашых дзядоў усё гэта не загіне, усё хараство будзе добра захоўвацца, у Беларусі яшчэ не ведаюць майстэрства сібірскіх беларусаў.

...Перад тым, як зайсці ў наступны

(Заканчэнне. Пачатак у нумарах 2 і 3).

